
Мост Соньki i Ёахіма ➔4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Фэст на сходах ➔8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 24 (3240) Год LXIII | Беласток, 17 чэрвеня 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



У апошнюю нядзелю мая ўжо 33 раз сабраліся аматары беларускай культуры на Свята, арганізаванае Беларускім грамадска-культурным таварыствам, найстарэйшай беларускай арганізацыяй у пасляваеннай Польшчы. Фэст адбыўся пры падтрымцы Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства і горада Беластока ды Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве.

На сцэне, усталяванай перад фантанамі ў беластоцкім парку Плянты, выступілі дваццаць чатыры групы з усёй беларускай

# Свята пад сонцам

Беласточчыны, сярод іншага з Беластока, Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага, Рыбалаў, Чыжоў, Орлі, Козлік і Гарадка ды, як кожны год, госці з Беларусі, у гэты раз — Ансамбль народнай музыкі «Свята» з Мінска, з мастацкім кіраўніком, заслужаным артыстам Рэспублікі Беларусь Анатолем Кашталапавым. Заспявалі, завіравалі ў танцы перад вернай публікай, да якой з захапленнем далучаліся іншыя жыхары Беластока, учуўшы пригожую песню, выпадкова апынуўшыся ў парку ці на суседніх з ім вуліцах. Асаблівa заваражылі танцы, выкананыя з азартам і прафесійна, дзіцячага танцавальнага ансамбля «Падляшскі вянок», які дзейнічае ў Беластоку пры Згуртаванні бацькоў дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову «АББА». А пачалі нецярплівыя і радасныя малечы — пасля песні «Мой Беластоцкі край» на словы Алеся Барскага — калектыў «Вясёлка» з самаўрадавага прадшколля № 14 у Беластоку, пад кіраўніцтвам настаўніц Эвы Гняздоўскай і Альжбеты Рудчук, а тыя заспявалі яшчэ з сяброўкамі-настаўніцамі таго ж садка ў калектыве «Світанак». Што вельмі цешыць: тое шматпакаленнае пяянне і ўдзел у роднай культуры — у імпрэзах ладжаных БГКТ — фестывалях, фэстах, канцэртах — у агульнай складанасці прымае ўдзел больш чым шэсцьдзесят пявучых і аматарскіх калектываў. Гэта групы, якія працуюць дзесяцігоддзі, але з кожным новым годам узнікаюць новыя, сярод якіх дзіцячыя і маладзевыя, якімі займаюцца мастакі, што самі выхаваліся на гэтай ніве. Сярод настаўнікаў — Марта Грэдаль-Іванюк з Гайнаўкі (калектыў «Пульс» і «Малое ГДК» з Гайнаўскага дома культуры), Лідзія Мартынюк з Вясковага дома культуры ў Рыбалах (калектыў «Росы»), «Капрыз» з бельскай «тройкі» з Аннай Вярцінскай, «Фэрмата» з Орлі з Володымірам Рэвай, беластоцкія «Каласкі» з Алай Каменскай ды «старыя», усё ж вечна маладыя «Рэха Пушчы» з Гайнаўкі і «Куранты» з Бельска з Алінай Негярэвіч, «Крыніца» з Беластока з Гражынай Валкавыцкай, «Чыжавяне» з Чыжоў з Юрам Ганевічам, «Лайланд» з Беластока з Багданом Астапчуком (ён жа і вядзе гурт сястрычак-Астапчучанак), «Асеннi лiст» з Гарадка з Галенай Бурай, і гарадоцкі «Хутар» пад рукой Янкі Карповіча... Ну і ж «Рэчанька» з Козлікаў з бадзёрай Любай Гаўрылюк... Ужо пра эстрадны папулярны «Ас» не ўспамінаючы, які па-юнацку кончыў чарговы фестываль беластоцкіх песень... Закончаны шматлюдна другім беларускім народным гімнам — «Люблю наш край».

— Пачалі мы свята з песні славутага нашага паэта Алеся Барскага, якая стала гімнам нашай дарагой Беласточчыны, — сказаў намеснік старшыні БГКТ Васіль Сегень. — І для памяці пра нашу малую айчыну ладзім між іншым наша Свята беларускай культуры... Дакуль будзе жыць беларуская культура, датуль будзем жыць і мы.

— А як жа спявалася ад пачатку фэсту-свята беларускай культуры, свята перш за ўсё роднай песні?

— Ну, мы старэем, і нашы сілы старэюць, — з усмешкай уздыхаюць сяброўкі з «Рэчанькі». — Стараемся.

— Ну, мы «не да здарця», — кажа Люба Гаўрылюк з Козлікаў. — Трэба трымацца да канца, не здавацца. Перш, як рабілі першае наша беларускае свята, то выступіла я з Аляй, і Гарадок. Якраз тая «завіруха» была. Пачатак васьмідзясятых гадоў. Мае колішнія «Каласкі» баяліся выступіць, казалі, можа камянямі будуць у нас кідаць. Мы выступалі ў Звярынецкім парку, пасля каля «Далікатэсаў» на Рынку Касцюшкі, на ўсходках, два разы. Я ж ад першага разу. А з «Рэчанькай» 23 гады ў лістападзе кончым! Адна наша сяброўка не выступае, якраз пасля аперацыі: сэрца ёй рамантуюць, пэўна вернецца ў калектыў з 30 гадоў маладзейшая. Але, ведаеце, мала нас, мала, бо такія што маглі б цяпер спяваць, работаю занятыя, бо кожны ж бяжыць за работаю, маладыя часу не маюць. А ў мяне ўсё жыццё для песні быў час. Нарабілася, і наспявалася. А спяваць буду, пакуль рук не складу.

— Трымайцеся, дзяўчаты! Добра выглядаеце, губкі падкрашаны...

— А як, самі засмоленыя, а губкі падкрашаныя. Сонца такое. Усе на агародах сядзяць, панасвалі, панасаджвалі. Але час на песню маем!

Са сваімі мастацкімі вырабамі сярод рукадзельніц сядзяць Анна Кузьма з Міхалова і Галіна Бірыцкая з Плянты. Нястомная спадарыня Галіна акрыяла неяк пасля цяжкай дарожнай аварыі і адразу рушыла на творчыя выставы з вышыванкамі, ручнікамі, іконамі. Яна і вершы піша па-свойму, дзейнічае ў літаратурнай групе нараўчанскіх народных пісьменнікаў. Да мастачак падыходзяць госці, зацікаўленыя народнымі вырабамі, больш аглядаюць, чым набываюць, захапляюцца. Да доўгага стала, дзе сядзіць групка «белавежцаў», дзе і «Ніва» ляжыць, раз-пораз падыходзяць слухачы, якім не сядзіцца пад асляпляльным сонцам на крэсельцах пад сцэнай. Сярод іх — асобы, у якіх дома ёсць цэлыя бібліятэкі свойскай літаратуры, як прафесар Аляксандр Кірылюк з кафедры тэхналогіі і інжынерыі і аховы асяроддзя Беластоцкай палітэхнікі. Яны і цікавяцца навінкамі, свежымі выданнямі, распытваюць пра непрысутнага за сталом найстарэйшага актыўнага паэта Віктара Шведа (ён сёння сярод гледачоў), цікавяцца, адкуль родам самі пісьменнікі. А найбольш выданняў будуць купляць ужо пасля канцэрта.

— Вось я «Ніву» вазьму. — кажа пані Ірэна. — Там цікавы матэрыял пра Семяноўскае возера і бацькаўшчыну, якую людзі маюць права вярнуць сабе. О, а тут ёсць і тэксты пра Сакольшчыну... Многа калісь пісала «Ніва» пра той наш бок... А я ведаю Міру Лукшу са Случанкі. Падпішыце кніжку проста «Ірэне з вёскі Масева». А і я пішу... Па-польску і па-нашаму. Я з масеўскага роду Леўшаў, жыву ў Станіслаўове. А мужык мой з Крынак, Кішкель. Сваяк Сакрата Яновіча. А была я настаўніцай беларускай мовы, у Грабаўцы.

— Гэта адтуль, што Васіль Петручук, — азываецца іншы чытач, а другі дадае:
— А ён цяпер у Беластоку жыве.

— Я ў Варшаве кончыла беларускую філалогію, пасля польскую... — дадае Ірэна Кішкель. — А я вам многа здароўя жадаю, каб мелі сілы пісаць, працаваць для беларускай культуры. Ага, у нас у Масеве была вялікая школа, у вайсковых кашарах. І туды прыязджалі Віктар Швед і Алесь Баршчэўскі. Я да сёння маю зборнікі Шведа. Я вершы люблю. Гэта мая душа. О, бачыце, яны, старыя, — жывыя паэты, і трымаюцца, дзякуй Богу, і мы разам з імі...

Міра ЛУКША

## 60 год літаратурнаму аб'яднанню „Белавежа"!

**Дарагія сябры літаратурнага аб'яднання „Белавежа"!**

**Шчыра віншуем з 60-годдзем вашай творчай арганізацыі!**

Каб сцвердзіць уласную прысутнасць, заявіць пра сябе urbi et orbi, 8 чэрвеня 1958 года беларускія літаратары Беласточчыны сабраліся разам у рэдакцыі газеты „Ніва". Гэтая звязанасць у адно, лучнасць ідэалаў, заўсёдная повязь з роднай беларускай мовай, з літаратарамі Мінска, Гародні, Берасця, Полацка, а таксама значна лепшая, чым у тагачаснай БССР, сітуацыя са свабодай слова дазволіла нашай арганізацыі трывала замацавацца ў гісторыі беларускай культуры. Аб'яднанне літаратараў Беласточчыны несла за мяжу, на тэрыторыю Савецкага Саюза, праўдзіва беларускі погляд на свет, друкуючы тэксты, якія не маглі быць апублікаваныя ў падцэнзурным друку БССР. Ваша кніжная серыя „Бібліятэчка аб'яднання „Белавежа"", дзе выйшлі многія дзясяткі выдатных кніг, стала карыстаецца ўвагай аматараў беларускай літаратуры.

Як і цяпер, так і тады, 60 год таму, у ваша аб'яднанне ўваходзяць пісьменнікі самых розных пакаленняў, многія з якіх з'яўляюцца сябрамі і ганаровымі сябрамі нашага Саюза беларускіх пісьменнікаў. Сярод заснавальнікаў „Белавежы" былі і дзеячы заходнебеларускага вызвольнага руху, і зусім маладыя людзі. Пераемнасцю традыцый і павагай да мінулага прасякнуты і выдатны літаратурны часопіс вашай арганізацыі „Тэрмапілы", які сёлета таксама святкуе свой юбілей — 20 год з дня выхаду першага нумару.

Рада грамадскага аб'яднання „Саюз беларускіх пісьменнікаў" шчыра віншуе вас, дарагія калегі, з гэтым агульным святам беларускай культуры — 60-годдзем „Белавежы", і зычыць творчага натхнення для далейшай плённай працы на карысць нашай роднай Бацькаўшчыны.

**Валянціна Аксак, Святлана Алексіевіч, Мікола Аляхновіч, Уладзімір Арлоў, Ірына Багдановіч, Раіса Баравікова, Анатоль Бароўскі, Алена Брава, Пятро Васючэнка, Анатоль Вярцінскі, Юрка Голуб, Леанід Дайнека, Генрых Далідовіч, Леанід Дранько-Майсюк, Валянцін Дубатоўка, Галіна Дубянецкая, Алесь Жук, Васіль Жуковіч, Віктар Жыбуль, Сяргей Законнікаў, Васіль Зуёнак, Віктар Казько, Віктар Карамазаў, Галіна Каржанеўская, Максім Клімковіч, Анастасія Лазебная, Уладзімір Някляеў, Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч (Сачанка), Вячаслаў Рагойша, Уладзімір Сіўчыкаў, Міхась Скобла, Аксана Спрынчан, Усевалад Сцебурака, Андрэй Федарэнка, Андрэй Хадановіч, Антаніна Хатэнка, Кастусь Цвірка, Мікола Яцкоў.**





# Міс Амерыка без бікіні

Ну і чым ім „Міс Амерыка” не дагадзіла?!

Вось чаго ніколі не зразумею, дык гэта таго, што нечым некаму „Міс Амерыка” не дагадзіла! Чорт бы іх забраў! І чорт бы іх усіх жжор з усімі іх вантробамі, тых, хто ў конкурсе на самую прывабную жанчыну ўбачыў знявагу для каго б вы думалі, правільна, для жанчын! Для тых, прывабных. І чым больш прывабная, тым больш знявагі.

Шкада толькі, што той чорт падавіцца. Упершыню чорта шкада. Ды ўсялякая пачвара такім паскудствам падавіцца, бо праглынуць такое без негатыўных наступстваў для здароўя немажліва. А вось людзі глытаюць. Глядзяць тэлевізар і глытаюць. Некаторыя нават смакуюць пры гэтым увесь працэс ад пачатку да канца. Яшчэ ўчора захапляліся прыгажосцю канкурсантак, а сёння кажуць, што гэта знявага.

Ну што ім „Міс Амерыка” такога зрабіла, што яны вырашылі і гэты даўнішні, запатрабаваны і прэстыжны конкурс „Міс Амерыка” ператварыць у казарменны балаган і вар'яцкае спаборніцтва лузербазнаў?! Ну быў конкурс як конкурс. Выходзяць прыгожыя мілавідныя дзяўчаты, каб заваяваць прэстыжны тытул. Заўважце, самі выходзяць. Ніхто іх у плечы не піхае. Ніхто не прымушае сілай. Вось ім так хочацца заваяваць сабе такі тытул. Падобных тытулаў і конкурсаў у той Амерыцы як снегу ў Арктыцы. Адны спаборнічаюць у аб'ёме біцэпсаў, другія ў цвёрдасці кубікаў на прэсе. І на мужчынскім прэсе, і на жаночым таксама. Конкурс на самы прывабны азадак ёсць. І не абражае нічыёй годнасці. Конкурс на самы піўны жывот таксама. Ёсць і такія, хто спаборнічае ў тым, хто далей плюне дохлым тараканам. Пераможцы з гонарам і пашанай упісваюцца ў кнігу рэкордаў Гінеса і многія з іх яшчэ і падпісваюць шматмільённыя кантракты з буйнымі фірмамі на рэкламу. А як жа ж! Пераможцы ўсё ж! Ну і што, што плявок быў дохлым тараканам? А што, плявок не дохлым нешта змяніў бы?!

Ну дык вось — гэта пераможцы. Хай сабе часамі і ў абсурдных намінацыях, але гэта ж свабодны свет! Не падабаецца — не глядзі. Гэтых конкурсаў у свабодным свеце як сабак не рэзаных. Ён таму і свабодны свет, што свабодны. Не падабаецца гэты конкурс, зрабі сабе іншы! Ніхто ж не перашкаджае. Але ж не. Не ўсе так думаюць. Некаторым не хапае савецкай цэнзуры. Свабоды ім стала зашмат. То зброю трэба забараніць, то бікіні. Галоўнае забараняць. Забараняць гэта ж не ствараць. Як гэта знаёма!

Калі я пачуў, што расійскія тролі ўмяшаліся ў амерыканскія выбары, я ані кропелькі не занепакоіўся, бо амерыканскія выбары перапруць усіх троляў разам з іхнімі тральчанятамі. А вось як прачытаў, што конкурс на самую прыгожую жанчыну Амерыкі больш не будзе праходзіць у тым фармаце, што раней, адразу адчуў пагрозу. Знайшліся ж магутныя плыні, якім больш не было чаго рабіць, як выкінуць з конкурсу праход дзяўчат у бікіні. Маўляў, гэта абражае іх чалавечую годнасць. Чыю канкрэтна, дзяўчат ці гэтых крыкуноў, я яшчэ не разабраўся, але гэта не мяняе сутнасці. Галоўнае, што цяпер удзельніцы конкурсу будуць выходзіць, хто ў чым хоча. Можна ў кальчузе, набедранай павязцы, начной камбінацыі, хіджабе, паранджы і нават ва ўсім разам. Нішто не абражае жанчыну, толькі бікіні.

Я нічога не маю супраць хіджаба. Увогуле, на мой густ жанчыны ў ім могуць сапраўды выглядаць прывабна. І хай сабе быў бы і такі конкурс. Але пры чым тут „Міс Амерыка?”.

А міс Амерыка вось пры чым. Усё традыцыйнае камусьці трэба знішчыць. І робіцца гэта нібыта для таго, каб не абражалася годнасць тых, каго нішчаць. Ну а калі хтось сумняваецца ў маіх высновах, то хай зробіць сваё. Толькі напачатку хай уважліва пачытае тыя змены, якія ўводзяцца ў правядзенне конкурсу. Не абавязковым будзе не толькі праход у бікіні. Абавязковы выхад у вячэрняй сукенцы таксама адмяняецца. Ведаеце, у такой доўгай, элегантнай, рамантычнай сукенцы... Ну ў якой казачных прынцэс звычайна малююць. Мара кожнай дзяўчынкі — вячэрняя сукенка, аказваецца, таксама зневажае годнасць жанчыны. І я думаю, што для многіх зневажае нават больш, чым бікіні. І хутчэй за ўсё менавіта ў ёй, у вячэрняй сукенцы і ўся справа. А бікіні гэта так, для адводу вачэй.

Віктар САЗОНАЎ

# Імёны пахаў



Пахі, нават найтанчэйшыя, не адлятаюць назаўжды. Не гінуць. Праўда, прарэджваюцца з цягам часу ў паветры, так што іх не знюхаеш, але яшчэ не цалкам. Змешаныя з малекуламі паветра, рухаюцца разам з ім над Зямлёй, вакол Зямлі, але ад самой Зямлі адарвацца ніяк не могуць. Перш за ўсё таму, што яны такія ж матэрыяльныя, як дым з коміна, або дажджавая хмара, як шахтавы вугаль, як мармуровая статуя ...

Хуткасць, што дазваляе ўцячы ад гравітацыйнага поля планеты налічвае для ўсіх матэрыяльных аб'ектаў 11,2 кіламетра ў секунду. Для таго, каб вырвацца з гравітацыйнай студні Сонца, павінна яна ўзрасці да 42,1 кіламетра ў секунду. Сучасныя пазаземныя ракеты ледзь перавышаюць гэтую першую хуткасць. Таксама нават найменшы пах не здольны, хммм, выстраліць з супастаўным паскарэннем па-за межы Зямлі. Хоць сланы могуць нібыта «пукнуць» з пачатковай хуткасцю сучаснай гаўбіцы, але гэта ўсё яшчэ замала, каб вынесла іх як найдалей ад браканьераў. Скажам, на Месяц. Ідэя не новая ў любым выпадку. У некаторых змоўных колах усё жывая ідэя, але па-мойму моцна баламутная тэорыя, тлумачыўшая цалкам, і што важнае, не пакідаючая ніякіх слядоў знікнення легендарных цмокаў. Вядома, я не гавару тут пра народныя баянні, рыцарскія эпасы і г.д. Прычым не маю на ўвазе звычайных дыназаўраў. Іх косці падлічаны! У той час цмачыных ніхто ніколі не бачыў. Пра тыя стварэнні мы ведаем толькі тое, што ахвотна жылі ў старажытным Кітаі, часам зведваліся ў Еўропе, дзе ўпадабалі закуску з розных там прынцэс і іншых нявінніц, а аб адным ведаем напэўна, па-за ўсякім сумневам, што пячору пад кракаўскім Вавелем змяніў на месца свайго часовага пражывання. Такім чынам, гэтая тэорыя сцвярджае, што цмокі зжэрлі ўсіх чалавечых нявінніц і каб не падохнуць ад голаду згаварыліся да грамадных уцёкаў. Тады, як бы сказаць... адпусцілі магутнага пука. Ну і няма ніякіх драконаў! Або ніколі іх не было. А можа, верагодна яны былі, і да гэтага часу існуюць... Але гэта маё асабістае меркаванне. Толькі што змуталіся і прыбраліся ў чалавечую скуру. Нявінніцы, як я сказаў, былі цалкам з'едзеныя, таму цмокі пераключыліся на больш лыкаватае меню, пра што сведчаць шматлікія акты генацыду. І прытым ад самага пачатку чалавечай гісторыі. Ва ўсякім выпадку вострыя смурод, які цмокі пакідаюць па сабе, на канец стаў як каменны вугаль з юрскіх папарацей, але зусім не пад Тарнобжагам, дзе ў нас ёсць адны з самых вялікіх у свеце радовішчаў серы. Сера серай, а цмачыны пах — пахам. Той жа, як і мільёны іншых, цудоўных ці агідных пахаў, знаходзіцца дзесьці пад зямлёй, і толькі чакаць, аж знойдзецца адкрывальнік, які будзе мець магчымасць выкарыстаць іх для чалавецтва.

Так што пахі не прападаюць. Скажам, Мао Цзэдун, з якога загаду выбілі амаль усё насельніцтва кітайскіх вераб'ёў, не кажучы ўжо пра мільёны яго сабратаў, замораных голадам. Мао, кажуць, не шкадаваў сабе прысмакаў, але чысціць зубы не хацеў. Паводле згадак яго асабістага ўрача, зараслі яны валаконна-зялёнымі грыбкамі, якія ўвесь час ферментавалі яму ў роце. Акрамя таго, ён гідзіўся карыстацца туалетам, еўрапейскай выдумкай, выбраўшы кітайскі гаршчок. Ездзіў з ім усюды. Так што быў той начны гаршчок і ў Маскве, і ў Карэі, і на дзясятках іншых замежных візітаў. Сталін, у сваю чаргу, не любіў мыць ног, таму рэдка здымаў глянцаваныя афіцэркі. Ну, але калі б іх разуў, дык!.. Людзі падалі б вакол яго, як мухі. Не ўсе пахі непрыемныя. Возьмем пах нагрэтага Сонцам сасновага лесу. Або скошанага лугу. Або вячэрніх туманаў над Нарвай. Калі б каго-небудзь спытацца пра самы прыгожы пах, у кожным адкрыецца шматструменная кніга ўспамінаў. Водары маюць у ёй бачнае месца. Там няма паху без імені. Усе яны маюць імёны. Вось той з бацькоўскага дому, духмянасць маміных страў. Але ёсць і пах паразы, асабістай слабасці... Толькі адзін пах ані мілы, ані немілы. Перш за ўсё даймаючы! Гэта пах усяночнага развітання над пакойнікам, востры водар яловых галінак і дымку свечак. Пах смерці пасля жыцця. І жыцця пасля смерці. Сёння чакае мяне такое трыванне. Сустрэча. Развітанне. Канец. Бывай, цёця Ядзя!

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Зубны боль і нервы «вапняка»

Тыдзень назад, пішучы пра своеасаблівасці стану здароўя мужчынскага полу, які дасягнуў пяцідзесяцігадовага ўзросту, я не спадзяваўся, што хіба сам для сябе выклікаў воўка з лесу. Для мяне, пушчанскага дзіка, успамін пра воўка можа выклікаць толькі зубны боль. І то не толькі ў пераносным сэнсе, але і ў рэальным. Менавіта ўвесь мінулы тыдзень майго зямнога блукання прайшоў пад знакам невыноснага зубнога болю. Праз яго ўсе божыя дні з панядзелка па нядзелю мелі на мэце адно: уціхамірыць балючае адчуванне сваёй недасканалай фізічнасці. Блуканне паміж дантыстамі і абязбольваючымі пілюлямі выклікалі не толькі фізічную раздражнёнасць арганізма, але і псіхічную, а менавіта прывялі мяне да нейкага адчайнага думання пра ўвесь род чалавечы і яго мяжу непадатлівасці на такія выпрабаванні. У маёй галаве, ачмурэлай і атупелай ад усіх праглынутых таблетак, усё ж такі нараджаліся вобразы і думкі наконт гісторыі зубнога болю ў яго гістарычным ці народным вымярэнні.

На хвіліну можам сабе ўявіць сярэднявечны гарадскі базар, на якім багата апрануты шарлатан абвяшчае крыкліва, што патрапіць бязбольна вырываць зубы. Карыстаючыся ашуканствам, пры дапамозе кампаньёна-добраахвотніка, які быццам неахвотна выступае з натоўпу, сімулюе вырыванне яму загадзя падрыхтаванага, запэцканага крывёю зуба і паказвае яго потым натоўпу гледачоў. Змучаныя зубным болем людзі, пабачыўшы такое бязбольнае дзіва, хутка рыхтуюць свае і сямейнікаў грошы і ў доўгай чарзе чакаюць збаўлення. Шарлатан мае пры сабе і ашуканскую групу трубачоў і бубначоў, якія гучнай музыкай проста заглушваюць крыкі наіўных хворых. Нешчаслівыя заставаліся без зубоў, грошай і часта са смяротным сэпсісам. У мінулым беднае грамадства найчасцей карысталася паслугамі цырульнікаў ці звычайных кавалёў. Нездарма такія працэдуры пакінулі нам у моўную спадчыну мянушкі выканаўцаў такіх паслуг, а нават лекараў, якіх у народзе і надалей часта называюць зубалупамі або шкурадзёрамі.

Боль зубоў спасцігаў пароўну і багатых, і бедных — звычайнага селяніна, і магутнага караля ці магната. У багатых хвароба і патрата зубоў была нават хутчэйшай, бо звязана яна яшчэ з адной прыкметай багацця — са спажываннем цукру і салодкіх вырабаў. Менавіта хуткае развіццё карыёзу (próchnicy) звязанае перш за ўсё з празмернай колькасцю спажываных прадуктаў з наяўнасцю цукру. Раней думалі, што ў хваробе зубоў вінаватыя нейкія таемныя чарвякі, якія іх з'ядаюць. Без зубной пасты і шчоткі гніласны працэс вокамгненна не дазваляў усміхацца шырокім ротам дамам і панам з мінулых эпох. Нездарма, калі глядзім гістарычнае мастацкае кіно, заўважаем, што добрыя грымёры заўсёды памяталі, што выгляд як панскага, так і сялянскага рота амаль не адрозніваўся да васямнаццатага стагоддзя. Бо толькі тады на парыжскіх салонах з'явілася запатрабаванне і мода тадышняй эліты на штучныя зубы. Тады такжа сама з'явілася новая лекарская спецыяльнасць — стаматолаг.

Выбягаючы наперад з часоў сярэднявечча ў канец дваццатага стагоддзя, успамінаецца мне, як на падляшскіх вёсках і ў мястэчках пасля развалу Савецкага Саюза з'явіліся адтуль дзясяткі дантыстаў, або можа і падшыванцаў, якія пазбаўленым рэальнай зубной дапамогі вяскоўцам прапанавалі ўсё рваць і рваць, што яшчэ было ў роце, а на пустое месца ставіць зубы і пратэзы. Гэтыя астатнія не вытрымлівалі часта нават і паўгода. І ехалі на роварах, а нават яшчэ і на фурманках пажылыя сяляне, якім было не да далёкіх, прыватных, гарадскіх кабінетаў, а проста, не ломячы язык, пад музыку ўсходніх суседзяў, пусканай у прыёмных, «ладзілі» не толькі свае бяззубыя ўсмешкі, але вярталіся часта і з закупленай у дантыста бутэлькай гарэлкі ці спірту, або з іншымі непатрэбнымі кухоннымі прычындаламі. Бо ж нашым людзям не адказацца ад такіх прапаноў «лекараў-чарадзееў».

Займаючыся сваімі зубнымі справамі і гістарычнымі паралелямі, зусім страціў я цікаўнасць да падзей у медыйна-грамадскай прасторы. І калі ў мінулую нядзелю пачаў я цікавіцца тым, што зараз там адбываецца, так хутка адтуль выйшаў, як і зайшоў. Бо ад прачытанага і пачутага ў любую хвіліну пагражала мне вяртанне не толькі зубнога, але і галаўнога болю. А таго сабе і шаноўным чытачам не жадаю.

Яўген ВАПА



# Пад пальмамі ў Міколы Цудатворца (ч.5)

Паўз грабніцы з мошчамі свяціцеля Міколы, як на якім вакзале, пераліваліся патокі турыстаў. Іх вымушаны спех здаваўся быць падшыты нячыстай сілай. Галоўнае — зайсці, сфоткаць сэлфі, пахадзіць туды-сюды з задзертай галавой, кінуць грашак у фантан на шчасце і ходу! Калі з групай гід, ён сваім падапечным рассылае ў тэлефоны лінк да інфармацыі пра месца і святога. Няма часу на пытанні і адказы. Пайшлі!

Іначай з паломнікамі з Расіі, Беларусі ці Украіны. Здавалася, іх апрача капліцы і мошчаў нішто больш не цікавіла ў горадзе. Іраіду з Еленай мы сустракалі кожны дзень ля грабніцы. Яны, як і ў першы дзень, узносілі гарачыя малітвы і рыдалі. Так дзейнічала месца. Хапіла прысесці на пяць хвілін, каб заліцца радаснымі, як у маім выпадку, слязамі...

Калі 8 мая 1087 года мошчы прыплылі ў Бары, у горадзе абмяркоўвалі план. Урачыстае шэсце з духавенствам, гарадской знаццю і процьмай народу, які разлічваў на цуд, арганізавалі ўжо праз дзень. Тады першы раз барычане маліліся пры святынях. У памяць гэтай падзеі ўжо амаль тысячу гадоў штогод у Санта-Нікольскім касцёле служаць рыма-каталіцкае і праваслаўнае набажэнствы. Дзень раней вуліцамі горада праходзіць працэсія з фігурай святога Міколы. Цудатворца ў гэты раз прыаздобілі бел-чырвона-белымі вянкамі і зялёнымі галінкамі. (Пасля галінкі разбяруць па хатах, італьянцы вераць у іх ахоўную моц і лекавыя якасці).

Ранішняе шэсце пад духавы аркестр было чуваць на тры кіламетры. Але да гэтага інсцэнізацыя адбываецца на моры. Сотні лодак і рыбацкіх суднаў, прыаздобленых кветкамі і зеленню, спяшаюць да карабля, на якім знаходзіцца нібыта прывезеная з Мір фігура. Рыбакі перавозяць святога на бераг, каб адтуль на плячах, урачыстым крокам занесці яго ў касцёл...

Усе, апрача сабак, чакалі моманту, калі фігура ўжо апынецца на італьянскай зямлі. Тады на ясным небе ўспыхнуць тысячы феерверкаў. Разам дрыжаць неба і мармуровы цэнтр. Страляюць з караблёў, самалётаў і вінтовак. Жахліва-радасная страляніна заварожвае. Частка натоўпу глядзела з прыадкрытымі ратамі ў неба. Час ад часу народ гудзеў і біў брава. Толькі дагледжаныя сабакі дрыжалі ад жаху, зрываліся з элегантных прывязей і сляпіцай уцякалі ў вузкія завулкі...

* * *

Мы таксама схаваліся ад страляніны ў гушчары вузкіх вулачак і прыселі на мармуровай лавачцы. Якраз тут пазнаёміліся з Еленай і Іраідай. Жанчыны спажывалі сняданак. Яны жавалі пшанічныя булкі і папівалі іх вадой.

— Во, колькі тысяч еўра пусцілі з дымам! — пракаментавала страляніну Іраіда.

— Але! — падтрымала Елена. — Іх бы да нас, на Данбас! Тады аджагналіся б ад гэтае страляніны...

Калі жанчыны пачулі нашу падляшскую мову, на якой я гаварыла з дачкой, жанчыны спачатку замоўклі. Адчакаўшы хвіліны тры, Елена спытала:

— Вы са Славакіі будзеце?

Калі мы расказалі адкуль і навошта сюды прыехалі, паломніцы ў знак зразумення паківалі галовамі:

— Я ж бачу, вы як свае...

Елена пяць гадоў эканоміла грошы на паломніцтва. Прыляцець у Бары параіў ёй мудры бацюшка Аляксандр:

— Раней я аб'ехала ўсе гадалкі ў Харкаве і наваколлі. Але яны не ведалі як мне дапамагчы, — горка ўздыхае жанчына.





Санта-Нікольскі касцёл

— Едзьце да кагось большага, — раілі ёй экстрасэнсы, — надта вялікая бяда ў вас ...

У Елены паміраюць мужыкі. Першы раз выйшла яна замуж у васямнаццаць гадоў. Пражыла з мужам толькі тры месяцы. Малады, здаровы... лёг спаць і не прачнуўся. Нават не зацяжарыла...

Другі муж утапіўся ў Дняпры. Выправіўся на рыбалку і заснуў над берагам. Ці сам упаў у ваду, ці хто яго пхнуў? Следства нічога не высветліла. Ад яго сын нарадзіўся, ён інжынер, камп'ютаршчык...

Трэці муж, а як жа, памёр на рак падстраўнікавай залозы. Гэты з усіх быў найлепшы. Зараз у Елены чацвёрты муж. Не ведае — жывы ён, ці мёртвы?! Месяц таму выйшаў з дому і ўжо не вярнуўся:

— Таму прыехала памаліцца, каб ён у жывых застаўся, — кажа. — Мне страшна за яго. Людзі гавораць, што праз мяне гэтыя ўсе няшчасці...

Расказ Елены, які прагучаў пад грукат італьянскай артылерыі, здаваўся яшчэ адной пранізлівай нотай у святочным гармідары.

Калі жанчына скончыла свой фатальны расказ, усе на нашай лавачцы ўжо плакалі. І свята верылі, што Цудатворца, апякун загінулых і прапаўшых, верне апошняга мужа Елене.

(працяг будзе)

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**



Мошчы св. Мікалая

# Мост імя Сонькі і Ёахіма





Даўно, даўно таму...
Добрым людзям

**16 чэрвеня 2018 года, у гадзінах 15.00-18.00 Каралёвае Стойла**

Рамэа! Чаму ж ты Рамэа?
Адрачыся ад роду свайго, кінь гэтае імя!
Або, калі гэтага не можаш учыніць,
Прысягні быць верным майму каханню,
А я перастану быць з крыві Капулетаў.

Я ніколі не быў у Вероне. Не бачыў дамоў сем'яў Капулецi і Мантэкі. Не стаяў пад балконам Джульеты (дабудаваным шмат гадоў пазней дзеля турыстаў з усяго свету). Не чытаў таксама «Рамэа і Джульеты» Уільяма Шэкспіра. Іх гісторыя кахання, якая стала стандартам рамантычнага захаплення, на самой справе не адбылася.

Вероне заўсёды вязло, была добра распалажана. Калісь горад быў вузлавым пунктам наземнага і воднага транспарту паўночна-ўсходняй Італіі. У старажытным Рыме была гэта кропка судотыку чатырох рымскіх дарог: Віа Галіка, Віа Клаўдыя Аўгуста, Вікум Веранензіюм і Віа Пастумія. Таксама сёння Верона стварае важны вузел сеткі аўтамагістраляў — дзякуючы свайму размяшчэнню на скрыжаванні трох асноўных маршрутаў, вядучых ад цэнтральнай і паўночна-заходняй Італіі праз перавал Бренер.



Размешчаны ў лукавіне ракі Адыджэ горад вабіць прыгажосцю рэнесансных камяніц, агародаў і мноствам каменных мастоў, на якіх сустракаюцца закаханыя.

Я быў у Случанцы і Каралёвым Стойле. Чытаў «Соньку» Ігната Карповіча. Шмат разоў стаяў на мосце праз раку Супрасль каля Случанкі.

Я не ведаю, ці іхняя гісторыя на самой справе адбылася. «Была ў нас адна такая, што ў час вайны мела раман з нямецкім салдатам».

«(...) ён быў зрэнкай маіх вачэй. Пупком майго цела. Мовай маіх вуснаў. Адбіткам кожнай лініі кончыка майго пальца. Гранню жаноцкасці".

Гэта няпраўда, што час закаханым праходзіць у адно імгненне. Час цячэ па-іншаму, але не паскараецца. Вочы глядзяць цяжка і ўважліва. Павекі цяжэюць. Кожная хвіліна, праведзеная разам, здаецца быць больш працяглай, большай і глыбейшай, чым год, праведзены ў адзіночку. О, так, кожную нашу хвіліну я дакладна памятаю, магла б гадзінамі расказваць, што тады адчувала, што станавілася, што пахацела, што кугакала, які сабака забрахаў у чым двары, і ў якое месца казыталі мяне сцяблінкі. Кожная хвіліна, праведзеная разам, была маленькай вечнасцю, ідэальным светам. Кожная хвіліна, праведзеная асобна, была як кінутая ў бруд, папсаваная і нічога не вартая.

Я кахала так да канца, да мяжы, за якой ужо нічога больш няма. Мы любілі сябе так моцна, што час плыў толькі тады, калі мы былі разам. Як быццам мы былі самім часам. Па-за намі час не існаваў, ані крышку".

**Гэтая сцэна на мосце магла выглядаць так.**

«Вось прышэлец з іншапланетнай цывілізацыі, бо кімсьці такім быў той немец, афіцэр СС, падчас Другой сусветнай вайны ў беларускай вёсцы. І яна, беларуская дзяўчына. Гэтая сітуацыя была амаль неверагодная, — кажа Карповіч. — Сонька гаворыць толькі па-беларуску, Ёахім толькі на нямецкай мове. Яна тутэйшая, ён — афіцэр нямецкай расы паноў. Аднак, даходзіць паміж імі да паразумення, яны ўлюбляюцца адзін у аднаго, ім непатрэбныя словы".

«Гэта быў час многіх войнаў, з якіх ні адна не была нашай».

Галоўныя героі гэта Сонька і яе каханак Ёахім Касторп.

Праект прадугледжвае названне моста на Супраслі імем Сонькі і Ёахіма, герояў рамана Ігната Карповіча.

**Дата: 16 чэрвеня 2018 года, у гадзінах 15.00-18.00. Сустрэнемся.**

Дарыюш ЖУКОЎСКІ

# Мае карані з Міклашоў

Выданне маёй кніжкі „Орля. Сапраўдныя гісторыі" аб сваіх людзях прычынілася да таго, што сустракаю асоб, якія зараз ахвотна згаджаюцца на запіс сваіх успамінаў пра сваё мінулае; сустракаю таксама нашчадкаў герояў кніжкі, якія хочуць расказаць пра сваіх продкаў.

Спадарыня Ірэна Маліноўская з роду Казлоўскіх з Міклашоў, 1944 года нараджэння зараз пражывае ў Варшаве; яна замужам за прафесарам, габілітаваным доктарам Людвікам Маліноўскім, спецыялістам па навейшай гісторыі і паліталогіі. Яна, дачка адной з гераінь кнігі — Ольгі Казлоўскай, вельмі заслужанай народнай майстрыхі. Спадарыня Ірэна ў гэты раз наведала Міклашы каб сустрэцца са мною...

Што асабліва кідаецца ў вочы? Апусцелыя сямейныя хаты па вёсках гарадскія ўласнікі часта прадаюць. Але ёсць і выключэнні. Вось, пасля адыходу бацькоў спадарыня Ірэна карпатліва адрамантавала драўляны дом у Міклашах. Дом захаваў свой вонкавы выгляд, усярэдзіне засталіся таксама печы, а мадэрнізаваны былі сцены. Рамонт быў неабходны, у першую чаргу трэба было памяняць падрубы. Таксама былі адрамантаваны гаспадарчыя будынкі. Спадарыня Ірэна дбайна захоўвае і экспануе мастацкую спадчыну маці Ольгі. У яе быццам у музеі, хаця ў вёсцы некаторыя гавораць, што яна „палацы парабіла".

Пакойная Ольга Казлоўская цягам 35 гадоў папулярызавала беларускія традыцыі, абрады і народныя звычаі ў нашым рэгіёне, у краіне і ў замежжы. У 1985 годзе была ўзнагароджана Сярэбраны



крыжам заслугі, у 1994 годзе ўзнагародай імя Оскара Кольберга, а ў 1996 годзе ўзнагародай міністра культуры і мастацтва.

**Мая мама**

Мама Ольга вельмі рупілася аб сваім доме, наколькі дазвалялі тадышнія магчымасці. Калі быў модны шыфер, то шыфер, пазней была змена... Трымалася прагрэсу наколькі хапала грошай, а з імі было сціпла. Крыху стала лепш, калі людзі сталі займацца саломапляценнем; вырабам каробак, талерак, збанкоў. А мама была заўсёды ініцыяткай новага. Памятаю, як ехалі на вяселле ў Дубічы-Царкоўныя і мама нарыхтавала торт. У той час ніхто ў нас не ўмеў рабіць тартоў. Усе былі здзіўлены.

Мама выконвала вельмі прыгожыя дажынкавыя вянкі. Калісь не было ёлачных упрыгожанняў, то мама сама рабіла цацкі на ёлку і вучыла гэтаму майстэрству маладых дзяўчын. Мама рашыла таксама выплятаць з саломы конікаў.

Рабіла многа рэчаў для Цэпэліі і адтуль атрымала пенсію. Дапамагаў і бацька Даніла — рыхтаваў салому. А раней ткала розныя маты ды капы на ложкі і сцены.

**Мае школьныя гады**

Прадшколля ў мае дашкольныя гады ў Орлі не было. У арлянскай школе вучылася я сем гадоў. Загадчыкам школы быў Васіль Лашкевіч. Выхавацелькай у першым класе была ягоная жонка Барбара. Асабліва любіла я матэматыку, якой да трэцяга класа навучала выхавацелька, а пасля сам спадар Лашкевіч. Заўсёды рашала задачы і заўсёды дазваляла спісваць. У парце за мною сядзелі Анатоль Несцяровіч і Мікалай Пасечнік; Анатоль гаварыў, што калі б так было ў ліцэі, то і ён туды ахвотна паступіў бы. Помню, што была адна складаная задача, якую я рашыла пасля некалькіх дзён, а сябрам не прызналася, што яе рашыла — то яны пагневаліся, што не дала ім спісаць. А загадчык быў здзіўлены, што я тую задачу рашыла.

Пасля сёмага класа хацела падацца ў эканамічны тэхнікум, а загадчык раіў падацца ў агульнаадукацыйны ліцэй, каб пасля быў выбар. І пайшла ў бельскі белліцэй. Наймала пансіён, спярша ў настаўніцы матэматыкі Ірэны Лукашэвіч, а калі яна выехала ў Квідзын, то жыла ў спадарства Мазурукоў па вуліцы Аградовай. У 1962 годзе здала матуру.

Маму падводзіла здароўе і я хацела пайсці ў двухгадовае медсясцёрскае вучылішча, або вывучыцца на медыцынскага аналітыка. Дырэктар Кастыцэвіч заявіў, што не дасць мне школьнага пасведчання, тлумачачы, што мне і пяць гадоў навукі замала. Паклікаў маму на размову. І пайшла я на лекарскую мікрабіялогію ў Лодзь. Туды было вельмі многа кандыдатаў; мая сяброўка мела менш шчасця і пайшла на фармацыю. Пасля пяці гадоў штудыяў стала я на працу ў мікрабіялагічную лабараторыю.

**Праца і захапленне астралогіяй**

Першая праца была ў беластоцкай санэпідэмстанцыі, пасля чатыры гады ў кандытарскім заводзе Вэдля, а пасля ў фабрыцы сываратак і вакцын у Варшаве працавала да выхаду на пенсію.

У сярэдняй школе а пасля і ў часе штудыяў вельмі цікавілі мяне міжчалавечыя адносіны. Перапісвала розныя сонікі, цікавілася старымі кніжкамі, хто калі нарадзіўся. Перапісала ўсю Кнігу долі, амерыканскую Кнігу імён з 1975 года. У той час такія тэксты не публікаваліся. Так мяне зацікавіла астралогія.

У 1980-х гадах муж працаваў у Таварыстве агульных ведаў. Тады пайшла мода на парапсіхалогію, астралогію. І запрапанаваў мне выдаць брашуру па астралогіі. Рэцэнзіі былі станоўчыя...

Тэкст і фота
Міхала МІНЦЭВІЧА

Новае выданне

# Аўтографы з Польшчы для Аляксея Пяткевіча

**У Гародні выйшла з друку ўнікальная кніга прафесара Аляксея Пяткевіча „Аўтографы — разам". Пад адну вокладку пісьменнік і педагог сабраў 577 аўтографаў пісьменнікаў, вучоных, навукоўцаў, якія яны разам з кнігамі падаравалі Аляксею Пяткевічу. Усе гэтыя кнігі з аўтографамі знаходзяцца ў асабістай бібліятэцы гарадзенскага літаратара. Цяпер з імі могуць пазнаёміцца ўсе жадаючыя, калі набудуць арыгінальную кнігу аўтографаў, пачынаючы з 1951 года і да сённяшніх дзён.**




У прадмове да кнігі Аляксей Пяткевіч шчыра напісаў: „Сёння люблю глядзець на паліцы сваёй бібліятэкі, якая збіралася, па сутнасці, усё жыццё. Мне прыемна проста спыніцца і пастаяць каля іх. Не кажучы ўжо пра тое, каб узяць у рукі нейкі том, разгарнуць яго, прачытаць некалькі старонак. Калі ж узгадаць пра свой немалады век, то трывожыць думка пра будучыні гэтых хавальніц мудрасці і харавства. Асабліва шкадую выданні з аўтографамі. А іх у мяне многа. Але помню кожную падпісаную кнігу: да яе ж прыклалася жывая чалавечая душа. Каб сказаць мне нейкае сваё слова і зладзіць такім чынам паміж намі пэўную духоўную сувязь".

У Беларусі гэта трэцяя кніга аўтографаў. Першая кніга аўтографаў „Дзякуй табе, кніга!" Соф'і Жыбулеўскай была апублікавана ў 2014 годзе, другая кніга „Аўтографы" Сяргея Панізьніка з'явілася ў 2016 годзе. І сёлета чытачоў і бібліяфілаў парадавала кніга Аляксея Пяткевіча.

Сярод тых, хто пакінуў свае аўтографы на кнігах і падараваў Аляксею Пяткевічу, ёсць і беларускія аўтары з Беласточчыны. А таксама польскія літаратары і гісторыкі, якія даследуюць Беларусь. Аўтографы ў кнізе (ксеракопіі тытульных лістоў на кнігах з аўтографамі) размешчаны ў храналагічнай паслядоўнасці, пачынаючы з 1950-х гадоў.

У 1960 годзе ў Мінску выйшла кніга Аляксея Карпюка (нарадзіўся ў вёсцы Страшава) „Данута". Пісьменнік падараваў кнігу і Аляксею Пяткевічу: „Аляксею Пяткевічу на доўгую памяць ад шчырага сэрца. 12.01.1965. Аляксей Карпюк".

Паэт Пятрусь Макаль (нарадзіўся ў вёсцы Крушыняны) у 1967 годзе выдаў добры зборнік вершаў „Акно". Праз два гады ён зборнік падараваў Аляксею Пяткевічу: „Дарагому Аляксею Пяткевічу з глыбокай пашанай. Пятрусь Макаль, 1969 г.".

Сакрат Яновіч (нарадзіўся ў Крынках) на сваёй кнізе „Загоны" (1969) напісаў так: „Аляксею Пяткевічу — жменю быляў беластоцка-беларускіх ад С. Яновіча. 30.05.1965 г.".

Крыcтык Серафім Андраюк (нарадзіўся ў вёсцы Градалі) на сваёй кнізе „Жыццё. Літаратура. Героі" (Мінск 1973) пакінуў такі аўтограф: „Аляксею Пяткевічу са шчырым пачуццём прыязнасці, найлепшымі пажаданнямі. 1.11.73 г.".

У 1976 годзе ў Беластоку выдаецца кніга Сакрата Яновіча і Юркі Геніюша „Зборнік сцэнічных твораў". Сакрат Яновіч пакідае на ёй свой аўтограф: „Аляксею Пяткевічу, сябру майму, у дапаўненне ягонай яновічаніяны. Ад Сакрата. Толькі што з друку, 18 жніўня 1976 г.".

Ян Чыквін (нарадзіўся ў вёсцы Дубічы-Царкоўныя) у 1976 годзе напісаў на сваім зборніку вершаў „Неспакой" так: „Паважанаму Аляксею Пяткевічу — Я.Чыквін, 4.X.1977, Беласток".

Гісторык Аляксандра Бергман, якая на польскай мове ў Варшаве выдала выдатную кнігу, прысвечаную Браніславу Тарашкевічу „Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu" (1977), на рускай мове для Аляксея Пяткевіча пакінула радкі: „Гродненскому другу с чувством уважения и благодарности. Александра. Warszawa, 12.01.78".

На польскай мове ў 1979 годзе выдаецца „Сцяна" Сакрата Яновіча. На ёй аўтар напісаў: „Аляксею Пяткевічу за добрае сэрца да польскага — ПНР-дзіцяці беларускай літаратуры, Сакрат, 4.05.79 г."

Атрымаў гарадзенскі літаратар і аўтограф на кнізе Міхася Шаховіча (нарадзіўся ў вёсцы Сакі) „Święta noc" (Беласток 1979): „Паважанаму Аляксею Пяткевічу з вялікай радасцю прыношу ў дары свой начны маналог. Міхась Шаховіч, Беласток, 10.01.1980". А Ірына Баравік (нарадзілася ў вёсцы Мора) на зборніку вершаў „Супраць ветру" (Беласток 1979) напісала: „Пану Аляксею Пяткевічу з сардэчным прывітаннем. Іра Баравік, Беласток, 10.01.81 г.".

На зборніку вершаў „Смак яблыка" (Мінск 1981) Пятрусь Макаль напісаў: „Дарагому Аляксею Міхайлавічу Пяткевічу, тонкаму знаўцу і строгаму крытыку паэзіі, — з любоўю і пашанай Пятрусь Макаль. 15.11.85".

Парадаваў аўтограф і Сакрата Яновіча на яго кнізе „Białoruś, Białoruś": „Шаноўнаму Аляксею Пяткевічу гэтае сваё літаратурнае даследаванне падпісваю з надзеяй сардэчнай на спагаду, Сакрат Яновіч, 18.04.1987".

Падараваў Міхась Шаховіч спадару Пяткевічу і свой зборнік твораў „Напевы" з такім аўтографам: „Паважанаму Аляксею Пяткевічу з вялікай пашанай і прызнаннем. Міхась Шаховіч, Беласток, 22.X.1989".

Захоўваюцца ў прыватнай бібліятэцы гарадзенскага прафесара і кнігі з аўтографамі Віктара Шведа (нарадзіўся ў вёсцы Мора): „Дарагому другу Аляксею Пяткевічу на ўспамін нашай сустрэчы ў гродзенскім тэатры на юбілеі Элізы Ажэшка. Віктар Швед, Гародня, 10.06.1991 г." (зборнік „Родны схоў", 1991). „Дарагому другу Аляксею Пяткевічу з сардэчнай падзякай за прыгожую ацэнку маёй паэтычнай творчасці. Віктар Швед" (зборнік „Wiersze wybrane", 1997). „Дарагому другу Аляксею Пяткевічу ад шчырага сэрца. З найлепшымі пажаданнямі Віктар Швед. Гародня, 10.09.2011 г." (зборнік „Адплываем з Мора", 2010). І ёсць аўтограф Віктара Шведа напісаны рыфмаванымі радкамі:

„Дарагому Пяткевічу Аляксею
У Дзень Ягонага Юбілею,
Захавальніку нашай Айчыны
Прысвячаю свае ўспаміны. Віктар Швед. Беласток, 30 сакавіка 2016" (зборнік „З Мора ў горад", 2015).

Атрымаў аўтограф з кнігаю Аляксей Пяткевіч і ад Юры Туронка. На сваёй кнізе „Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi" (Варшава 1992) аўтар падзякаваў: „Шаноўнаму прафесару Аляксею Пяткевічу з павагай і падзякай за дапамогу ў апрацоўцы гэтай кнігі. Юры Туронак. Варшава, 28.11.1992 г.".

Прывёз у Гародню ў 1994 годзе Сакрат Яновіч і падараваў сваю кнігу Пяткевічам „Доўгая сьмерць Крынак": „Дарагому спадарству Пяткевічам ад Яновічаў на сардэчную памятку і несмяротнасць. У Гародні ў гасцінным доме. 23.11.1994 г.".

Жонка Юркі Геніюша Валянціна Геніюш на кніжцы „З маёй званіцы" Юркі напісала: „Сябру А. Пяткевічу на памятку аб Юрцы, г. Беласток, 12. 10.1994. Валянціна Геніюш".

Падаравала сваю кнігу з аўтографам і Тэрэза Занеўская на кнізе „Strażnicy pamięci. Poezja białoruska w Polsce po roku 1956" (Białystok 1997): „Спадару прафесару Аляксею Пяткевічу з найлепшымі пажаданнямі і падзякай за дапамогу. Тэрэза Занеўская, Беласток, 27.02.1998".

На зборніку твораў (плён III Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы) „Зноў чуеш словы" (Беласток, 1998) свае аўтографы і пажаданні Аляксею Пяткевічу паставілі Юрка Буйнюк, Валодзя Саўчук, Ганна Яканюк, Івона Марціновіч, Анна Садоўская, Агнешка Галімская, Люцына Данілюк і іншыя маладыя аўтары.

Паэтка Надзея Артымовіч (нарадзілася ў вёсцы Аўгустова) таксама падаравала свой зборнік „Лагодны час" (Люблін 1998) з аўтографам: „Майму сябру Аляксею Пяткевічу — сардэчна — на доўгую памяць. Надзея Артымовіч"...

Спіс аўтографаў вышэй названых аўтараў і іншых можна яшчэ доўга працягваць. Яны, як кажа сам Аляксей Пяткевіч, „вялікая і дужая грамада, што не прападзе, не паддасца забыццю і знішчэнню".

Сяргей ЧЫГРЫН

## Дзень маці

У календары Гміннага асяродка культуры ў Чаромсе Дзень маці на стала запісаны як цыклічная імпрэза. Сёлета ўрачыстасць праходзіла ў суботу 27 траўня ў 16 гадзін. Арганізатарам з'яўляўся ГАК на чале з дырэктарам Барбарай Кузуб-Самасюк, суарганізатарам — Польскі саюз пенсіянераў. У мерапрыемстве ў якасці гасцей удзельнічалі войт гміны Міхал Врублеўскі, ксёндз Кшыштаф Дамарачэнька, старшыня гуртка пенсіянераў Мікалай Янчук, Пётр Яфімюк са Стражы гранічнай, участковы Паліцыі Дарыюш Гайдучэня, ды шырокае кола пенсіянераў. З адмысловай прамовай і святочнымі віншаваннямі выступілі войт Міхал Врублеўскі, дырэктар ГАК Барбара Кузуб-Самасюк, ксёндз Кшыштаф Дамарачэнька і Мікалай Янчук. У мастацкай частцы з вершамі і песнямі, прысвечанымі Дню маці, выступіў вучнёўскі калектыў школьна-дашкольнага комплексу. Пра багаты пачастунак з кавай, гарбатай і рознага віду напоямі ды ласункамі задбалі арганізатары пры дапамозе „уласнага кошычка" з надпісам „штосьці для духа" ўдзельнікаў мерапрыемства. Зала была запоўнена гасцямі па апошняе месца. Былі спевы і танцы, як заўжды на чаромхаўскіх імпрэзах бывае. А за музыку задбаў маэстра Здзіслаў Закшэўскі. Прыемна было пагасцяваць у так вясёлай і сяброўскай атмасферы. **(УС)**

## З кветкамі праз жыццё

Галіна Бэднаж марыла мець вакол сябе многа кветак, кожнага дня. І яна мае свой даволі прасторны кветкавы магазін «Касач» у Гайнаўцы пры вуліцы Паркавай. Вядзе яго, ого, з 1974 года. У працы дапамагае ёй Малгажата Стульгіс. У кветкавы магазін найчасцей прыходзяць жанчыны. Хто як хто, а яны любяць кветкі, іх чароўную прывабнасць. Маюць іх у сваіх кватэрах круглы год. Любяць, калі ім дораць кветкі мужчыны. Не толькі тады, калі дома часам бываюць сваркі. Кветкі сваёй натуральнай прыгажосцю і пахам папраўляюць настрой. Як вядома, гэтыя цудоўныя расліны спадарожнічаюць нам у розных жыццёвых момантах — у радасныя і сумныя.

Кветак у магазіне спадарыні Галіны столькі, што можна выбіраць і выбіраць. Тут чырвоныя і жоўтыя ружы (яны каралевы кветак), чырвоныя гваздзікі, герберы, фрэзіі, маргарыткі, пахучыя ліліі ды блюшч і іншыя кветкі з экзатычнымі назвамі, напрыклад, антурыюм і спаціфілум (skrzydłowce). Ёсць у продажы жывыя і штучныя кветкі. Ёсць у вялікіх і малых гліняных і пластмасавых пасудзінах для вазонаў ятрышнікі, бягоніі, папроткі і цыкламены. Тут можна купіць гатовыя або на заказ вянкі і букеты з натуральных і штучных кветак з адвольным упрыгажэннем.

У Гайнаўцы існуе шэсць кветкавых магазінаў, у тым ліку два пры вуліцы 3 Мая. Адзін носіць назву «Тамара» ад імя кветачніцы. Гайнаўскія кветачніцы прывозяць сваім пакупнікам кветкі найчасцей з вялікіх кветкавых магазінаў Беластока. 4 чэрвеня г.г. быў я ў Гайнаўцы і бачыў, што кветкі прадавалі таксама ў кіёску побач невялікага базару каля Музея і асяродка беларускай культуры.

## Небяспечная дарога

Цяпер вельмі небяспечна ехаць ваяводскай дарогай № 687 на яе адрэзку з Новага Ляўкова ад моста на рэчцы Баброўка да чыгуначнага пераезда ў Плянце Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Маставая на гэтым адрэзку дарогі патрабуе рамонту. Тут працьма ўхабін уздоўж і ўпоперак маставой. Тут і каляіны на асфальце ўздоўж артэрыі. Па такой дарозе дрэнна ды так мовіць, хранова, ехаць.

У канцы красавіка гэтага года дарожныя службы так-сяк рамантавалі маставую. Кідалі камякі бітумічнай чорнай масы ў выбоіны, кідалі ды гэты занятак, па ўсім відаць, ім знудзіўся, то кінулі яго і паехалі абы далей адсюль. А ну яго! Ухабін у асфальтавым палатне яныі так не былі ў змозе заляпіць. Ногі і ім ад тупання-стукання забалелі. А мо не стала ім бітумічнай масы, хто яго ведае. Але больш ужо не прыязджаюць сюды рамантаваць. Не паказваюцца на дарозе. Хай трасца іх бярэ тыя «дзіркі», калі іх столькі. А вадзіцелі аўтамабіляў пасылаюць маты на такую дарогу, а яна не абы-якая — яна ж лічыцца ваяводскай магістраллю з Юшкавага Груда ў Навасады каля Гайнаўкі. Вось яно як! **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Мастацкае развітанне са школай!

І ў гэты раз не магло абысціся без сюрпрызаў! Танцавальны ансамбль «Падляшскі вянок» пачаў з прэм'еры танца «Птушыны панадворак». У сваёй каларытнасці напамінаў сцэны з «Чарадзейнай флейты» Моцарта. Салістка, Сара Скаўронская, так увасобілася ў ролю курачкі-мамы, што лепш не прыдумаць. Ансамбль невыпадкова заваёўвае поспехі, паколькі вядучая Аксана Прус умее дабыць рух і экспрэсію з кожнага дзіцяці. У «Падляшскім вянку» танчаць не адны тоненькія дзяўчаткі. У дзяцей розныя фігуры, аднак гэта не збівае іх з рытму. Кожны разумее, колькі тут ангажаванасці і энтузіязму. У гэты раз старэйшыя і малыя як ніколі бадзёра станцавалі «Лявоніху», а танец «Юрачка» з салістам Алесем Здрайкоўскім развесяліў публіку да слёз. Нашы сябры цягам мінулага школьнага года шмат выступалі, між іншым, у беластоцкай філармоніі ў сотую гадавіну БНР. У найбліжэйшых планах — паездка на Міжнародны фестываль дзіцячых танцавальных калектываў у Балгарыі.














Як не цікава, многія танцоры з поспехам займаюцца ў школьным гуртку «Гульня ў тэатр». У гэты раз гледачы пабачылі два мюзіклы: «Станцыя вар'ятаў» і «Цацачная крама». Вядучыя Марыся Пякарская і Кася Іванюк паінфармавалі, што ў тэатральным гуртку займаецца больш за паўсотню асоб. Згаданыя пастаноўкі з удзелам дзяцей і гімназістаў паставілі настаўніца Аліна Ваўранюк і акцёр Бэрнард Баня. Праўда, мюзіклы мелі ўжо свае прэм'еры некалькі гадоў таму. А зараз яны прагучалі новымі галасамі і праявіліся такімі ж талентамі. У мюзіклах не толькі цудоўныя песні. Вялікі націск пакладзены ў іх на разуменне лексікі і вымаўленне. Прыгожым дапаўненнем свята сталі песні музычнага гурта «Баламуты», якім кіруе Кірыл Ліпай. Яшчэ сёння ў вушах звініць песенька «Сёння ў нашай мамы свята», «Дунаю-Дунаю», «Я дзяўчыначка, беларусачка» ці «Тры чарапахі». Спадабалася іх інтэрпрэтацыя шэдэўра гурта «Brutto»; галасы стварылі вакал і «інструменты». У ходзе сустрэчы былі таксама агучаны вынікі мастацкага конкурсу «Мая маленькая айчына». Як не цікава, шмат узнагарод заваявалі дзеці з падбеластоцкіх Агароднічак...

Ды пра якое беларускае свята мы так прыгожа пішам? Гэта ўжо традыцыя! Кожны год вучні, якія ўдзельнічаюць у мастацкіх праектах аб' яднання АБ-БА, прэзентуюць свае дасягненні бацькам і запрошаным госцям. У гэты раз мерапрыемства зладзілі 4 чэрвеня ў беластоцкім лялечным тэатры.

Таксама, згодна з традыцыяй, нашы сябры, бацькі і настаўнікі сустрэліся на падзячным малебне. У нядзелю, 10 чэрвеня, у беластоцкай царкве Іаана Багаслова былі адслужаны літургія і беларускі малебен. Тут таксама былі сюрпрызы: дзіцячы парафіяльны хор, які вядзе Анна Васькоўская, упершыню выступіў у густоўных беларускіх вышыванках.

**Зорка**
**Фота Аляксандр Васылюк**

# Выцінанка

Што такое выцінанка? Гэта ажурны ўзор выразаны на паперы, вельмі папулярны ў Беларусі і на Падляшшы. Нашы продкі прыаздаблялі выцінанкай вокны і іконы, калядныя гвязды.

Выцінанка з'явілася на Падляшшы ў XIX стагоддзі, разам з прамысловасцю і паперай. Найбольш пашыранымі былі аднаколерныя выцінанкі; часам іх рабілі з некалькіх пластоў паперы рознага колеру. Узоры былі геаметрычныя. Найбольш распаўсюджанымі былі геаметрычныя раслінныя ўзоры. У раёне Белавежскай пушчы на выцінанках прадстаўлялі жыхароў лесу, між іншым, караля пушчы — зубра!

**Якуб Колас**

## Лес

*Глуха шэпча лес зялёны,*
*І шуміць ён, і шуміць,*
*Гоман доўгі, нескончоны*
*Цэлы дзень над ім стаіць.*
*Пераблытаны галіны*
*У адзін шалаш жывы...*
*Лес, аб чым шумяць вяршыны?*
*Лес, што шэпчаш, векавы?*
*Толькі ж лес гудзе-ракоча*
*Цёмнай шапкай верхавін,*
*Толькі ж лес сказаць не хоча,*
*Што ён ведае адзін.*

Малюнак на аснове выцінанкі «Белавежскія зубры» Наталлі Гамаюнавай.

Размалюйце!



Загадкі з роднай хаткі

**УВАГА КОНКУРС! № 24-18**

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 24 чэрвеня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Лёгкі, але не падняць.**
**Сцелецца, ды не рагожа...**
**Бераг,**
**лужок**
**і стажок –**
**кожны схавацца ў ім можа.**
**Т....**

**(Васіль Жуковіч)**

**Адказ на загадку № 20-2018: пчала. Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі Зузя Герасімчук і Анастасія Шэрэмэта з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока. Віншуем!**

# Польска-беларуская крыжаванка № 24-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 20-2018: Акно, боты, каштан, сталіца, сказ, мат, сто, кнігарня. Смак, краска, штат, таз, бал, коні, тур, чытач, ля.

Узнагароды — капілярныя аўтаручкі (cienkopisy) — выйгралі **Юлія Клімчук, Марына Місяюк, Ася Пяткевіч, Лена Хадакоўская, Дамініка Жук** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Мацей Плева, Віялета Смалюк, Зузанна Мішчук, Наталля Нікачук** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Torebka | | Sęk / Niebo | | Literka | |
| Klucz | | Lato | Poziomki | | | | | | |
| | | Bukiet / Snob | | | | | | Ty | Koło |
| As | | | Ewa | | Bank | | | | |
| My | Nektar | | | | | | | | |
| Język / Ryba | | | | | | | | | |
| | | | | Praca | | | | | |



❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# XIV «Культура на музейных сходах»

Калі дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк запрашаў мяне на XIV Беларускі этнаграфічны фестываль «Культура на музейных сходах», які 3 чэрвеня прайшоў на плошчы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы, распавёў пра галоўныя козыры мерапрыемства. Звярнуў ён увагу на майстар-класы па рамёствах, канцэрты калектываў з Беласточчыны і Рэспублікі Беларусь ды гайнаўскіх дашкольнікаў, дэгустацыю народных страў. Мерапрыемству спадарожнічае таксама шмат цікавых атракцыёнаў, дзеля чаго варта наведаць фестываль «Культура на музейных сходах» — вынік аб'яднання паасобных фэстаў у адно вялікае этнаграфічнае мерапрыемства.

Спачатку белмузейныя фэсты прымеркаваныя былі рамёствам і рукадзеллю. Адбываліся яны ў паасобныя дні на панадворку перад музейным будынкам, а выступы калектываў — на музейных сходах. Калі было дрэннае надвор'е, мерапрыемства ладзілася ў музейных памяшканнях. Пазней паасобныя фэсты былі аб'яднаны ў Беларускі этнаграфічны фестываль «Культура на музейных сходах». 3 чэрвеня на прымузейным панадворку сабралася многа публікі. Найстарэйшыя асобы занялі сядзячыя месцы насупраць сцэны, астатнія глядзелі выступы стоячы. З зацікаўленнем слухалі яны вядомыя беларускія песні ў выкананні гуртоў з Беласточчыны і іх новыя творы. Займальна запрэзентаваліся госці з Рэспублікі Беларусь з народнымі творамі і сучаснай музыкай. Дзеткі з бацькамі пераходзілі з аднаго месца на другое, знаёмячыся з народнымі рамёствамі. Дашкольнікі і вучні мелі магчымасць крыху павучыцца даўнім заняткам нашых продкаў.

Фестываль «Культура на музейных сходах» ужо добра вядомы гайнавянам і жыхарам наваколля. Мерапрыемства прыцягнула таксама жыхароў Бельска-Падляшскага, Беластока, Нарвы, Дубіч-Царкоўных і іншых мясцовасцей. Вядучая імпрэзы Марыёля Герман-Петручук спачатку прывітала прадстаўнікоў мясцовых улад, віцэ-старасту Гайнаўскага павета Ядвігу Дамброўскую і віцэ-бургамістра Гайнаўкі Андрэя Скепку, дырэктара Гайнаўскага белліцэя Ігара Лукашука. Дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк, адкрываючы фестываль заявіў, што чатырнацаты выпуск мерапрыемства прысвячаецца, між іншым, яго бацькам, якія гадамі, так як і сёлета, нягледзячы на хваробы і пажылы ўзрост, рыхтуюць мясныя стравы на белфестываль і частуюць імі яго ўдзельнікаў. Дырэктар прыгадаў публіцы гісторыю фестывалю, запрасіў яго ўдзельнікаў знаёміцца з беларускімі рамёствамі, рукадзеллем і заклікаў да актыўнага адпачынку пры добрай беларускай музыцы.

— Мы аб'ядналі паасобныя фэсты ў адзін фестываль, каб надаць яму большае значэнне і прыцягнуць больш публікі падчас летняга музейнага мерапрыемства. Сёння можна ў нас пазнаёміцца з даўнімі рамёствамі і рукадзеллем. Майстар-класы — вельмі важная частка нашага мерапрыемства. Тут можна яшчэ паглядзець гатовыя вырабы нашых творцаў, прыдбаць рукадзелле і беларускую літаратуру, а таксама паспрабаваць народныя беларускія стравы, перш за ўсё смажаныя бульбяныя дранікі і мясныя вырабы са свініны. Важна таксама, што можна паслухаць беларускія песні, паглядзець беларускія народныя танцы, а нават пастаноўку па-беларуску. Відаць, што наш музей — жывая ўстанова, а беларуская культура ўвесь час для нас жывая, цікавая і вартасная, — сказаў дырэктар **Тамаш Ціханюк**.



■ Тканне выклікала ў дзетак многа эмоцый, — заявіла Ірэна Ігнацюк з Ляўкова



■ Чарга да бульбяных дранікаў

Этнаграфічны фестываль фінансава падтрымліваюць Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства, Павятовае староства ў Гайнаўцы, горад Гайнаўка і прыватныя спонсары. Этнафэст успамаглі таксама Гмінная ўправа ў Нараўцы і Гайнаўскі дом культуры. Віцэ-стараста Ядвіга Дамброўская і віцэ-бургамістр Андрэй Скепка раней са сцэны падзякавалі Гайнаўскаму белмузею за арганізаванне беларускіх мерапрыемстваў у горадзе і павеце, а таксама Тамашу Ціханюку і яго сямейнікам за асабістую ангажаванасць у прапагандаванне беларускай культуры і мясцовых традыцый. Многа дзетак хацела паспрабаваць за ганчарным колам і выканаць з гліны посуд. Ганчарскаму рамяству вучыў Міраслаў Пяхоўскі з Чорнай-Вёскі-Касцельнай.

— Штораз новыя дзеткі працуюць за ганчарным колам і патрапяць уляпіць з гліны гаршкі. Я тут таксама прадаю гліняны посуд, сівакі, маляваныя і паліваныя збанкі, а таксама чорны посуд. Гліняны посуд апошнім часам стаў модным, — сказаў **Міраслаў Пяхоўскі**.

Ткаць на кроснах вучыла Ірэна Ігнацюк з Ляўкова.

— Ткаць я не навучу, але дзеткі маюць магчымасць працягнуць нітку і стукнуць па кроснах. Спробы ткання выклікаюць у іх многа эмоцый, — заявіла **Ірэна Ігнацюк**.

Дзеткі за кроснамі заўважылі, што ткацтва — вельмі складаная праца. Каля палаткі, у якой маладыя жанчыны смажылі бульбяныя дранікі, выстраілася чарга ахвотных паспрабаваць бульбяную страву. У белмузейнай краме можна было купіць беларускую літаратуру і сувеніры.

— Людзі частуюцца нашымі мяснымі вырабамі. Раней гадавалі мы сваіх свіней, а цяпер купляем мяса, у якім няма паляпшальнікаў. Таму і смакуе наша вяндліна, — заявіў **Уладзімір Ціханюк**, які каля музейнай крамы частаваў удзельнікаў фестывалю вяндлінай, якую з жонкай выконвае паводле сваіх рэцэптаў. Іх нявестка Агнешка Ціханюк непадалёк вучыла дзетак рабіць з палос тканіны кругольчыкі, якія ў вясковых дамах засцілаюць на падлогу. Дзеткам спадабалася гэтае рукадзелле, паколькі было намнога менш складаным, чым тканне на кроснах. Прадстаўнікі Майстэрні працатэрапіі ў Гайнаўцы прапанавалі рукадзелле, выкананае інвалідамі, якія займаюцца ў гэтай установе. Тамара Зубрыцкая з Нараўкі выконвае сувеніры для турыстаў, якія наведваюць Белавежскую пушчу. Яе памяткі найчасцей зроблены ў драўніне. Прадае іх у Нараўцы, Белавежы і падчас мерапрыемстваў у іншых мясцовасцях.

Выступы на сцэне пачаліся з беларускіх песень у выкананні беларускага калектыву «Калебка» з Садка № 1 у Гайнаўцы. Дашкольнікаў да выступаў падрыхтавалі настаўніцы Міраслава Нíканчук і Ала Супрун. Пазней дзеткі сышлі са сцэны і на траве ўдала запрэзентавалі беларускія народныя танцы, якія развучылі разам з інструктаркай танцаў Вольгай Вілюк. Дашкольнікі выступілі ў стылізаванай на народную вопратцы. Малечы захапілі публіку таксама як акцёры, калі выступілі па-беларуску ў пастаноўцы «Рукавічка».

— Мая дачка Анастасія вельмі рада спяванню па-беларуску, народным танцам і тэатральным выступам з беларускім словам. Мы, бацькі, дапамагалі выканаць сцэнічнае афармленне для пастаноўкі «Рукавічка», — заявіла **Анна Франкоўская**, у прыватнасці настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе № 1 у Гайнаўцы.

— Мы з Алай Супрун доўга рыхтавалі дзетак да выступаў у пастаноўцы «Рукавічка». Дабіліся мы вялікага поспеху, бо атрымалі ўзнагароду Гран-пры падчас тэатральнага агляду арганізаванага БГКТ для дашкольнікаў і вучняў. Сёння нашы дзеткі рады, што маглі выступіць перад так вялікай публікай. Вялікую працу выконвае таксама Вольга Вілюк, спецыяліст па танцах, якая вучыць у нашым прадшколлі беларускім народным танцам і дапамагае нам арганізаваць гульні па-беларуску, — распавядала настаўніца ў Прадшколлі № 1 у Гайнаўцы **Міраслава Нíканчук**.

Адважна і цікава запрэзентаваўся перад фестывальнай публікай калектыў «Сундучок», які дзейнічае ў Непублічным прадшколлі імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Гайнаўцы.

— Займаюся з дашкольнікамі тры месяцы. Вучу дзетак спяваць нашы песні без акампанементу. Сёння дашкольнікам было больш складана спяваць, бо частка іх захварэла і не маглі сёння выступіць, — удакладніла інструктарка калектыву «Сундучок» **Паўліна Скепка**.

Пасля дзетак займальна запрэзентаваўся гурт «Арт-Пронар» з Нарвы. Яго члены падрыхтавалі беларускі рэпертуар, які павінен быў спадабацца публіцы ўсіх узростаў. Так было сапраўды. Публіка з вялікай увагай сачыла за песнямі ў выкананні калектыву з Нарвы. Эмацыйна і на высокім мастацкім узроўні запрэзентаваўся народны хор «Вербніца» з Пружан.

— Мы ўжо выступалі ў Гайнаўцы, з якой у нас наладжаны сяброўскія адносіны, але на гэтым мерапрыемстве мы спяваем упершыню. Тут гучаць нашы беларускія песні і мы таксама падрыхтавалі багаты і цікавы рэпертуар беларускіх радасных, энергічных песень, якія пераплятаюцца з больш лірычнымі творамі, — заявіў музычны кіраўнік «Вербніцы» **Іван Гвоздзік**.

Займальна запрэзентаваліся таксама гайнаўскія калектывы «Давід Шымчук Банд» і «Retro Beats» ды беластоцкая «Амаральная прапанова». Беларускі фестываль доўжыўся ад абеду ажно амаль да вечара і таму публіка мянялася. Калі апошнім займальна выступіў вядомы гайнаўскай публіцы беларускі гурт «Палац» з Мінска, вялікую частку сабраных састаўляла моладзь, якая чакала выступлення культавага калектыву з Беларусі.



# Фэст
## круглых слоў і сталоў

**У рамках XII Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур 1 і 2 чэрвеня 2018 г. у Гродне літаратары і перакладчыкі з розных краін упершыню сустрэліся за круглым сталом. З іх удзелам адбыліся мерапрыемствы — семінар „Мастацкі тэкст у арыгінале і перакладзе", круглы стол „Дыялог літаратур — дыялог культур", а таксама сустрэча ў музеі Максіма Багдановіча, дзе на розных мовах прагучалі вершы беларускага паэта — пераклады больш чым на 15 моў.**

Арганізатарамі мерапрыемстваў выступілі Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, Абласная навуковая бібліятэка імя Яўхіма Карскага, Дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей, Саюз пісьменнікаў Беларусі, выдавецкі дом „Звязда", выдавецтва „Мастацкая літаратура", Міністэрства інфармацыі РБ, Гродзенскі абласны і гарадскі выканаўчыя камітэты. Літаратурныя сустрэчы сабралі пісьменнікаў з Беларусі, Казахстана, Літвы, Азербайджана, Польшчы, Малдовы, Францыі, Латвіі, Расіі і іншых краін.

— Мы вельмі ўдзячныя арганізатарам фестывалю за тое, што ў праграму свята ўключаны літаратурныя мерапрыемствы. Мне здаецца, такі камунікатыў, звязаны з перакладам і прадстаўленнем беларускай літаратуры ў свеце, спрыяе развіццю знешнепалітычных сувязей. Асабліва, калі мы гаворым пра народную дыпламатыю, стасункі паміж культурамі. Дзе, як не ў маштабах такога фестывалю, які дэманструе пашану беларусаў да розных нацыянальных культур, паказваць гэтую супольнасць і развіваць гэтыя сувязі, — адзначыў міністр Алесь Карлюкевіч. — Пачынаючы з 2007 года, Міністэрства інфармацыі Беларусі і выдавецкі дом „Звязда" праводзяць міжнародныя круглыя сталы пад агульнай ідэяй „Мастацкая літаратура як шлях адзін да аднаго". Адбываліся яны і ў межах Дзён беларускага пісьменства, у тым ліку на Гродзеншчыне. А, пачынаючы з 2015 года, у Мінску праводзіцца міжнародны сімпозіум літаратараў „Пісьменнік і час", які таксама збірае прадстаўнікоў розных краін і розных нацыянальных літаратур. Спадзяюся, што літаратурныя імпрэзы на фестывалі стануць традыцыйнымі. І, магчыма, у новым фармаце. Да прыкладу, пісьменнікі з розных краін будуць чытаць вершы гарадзенскіх паэтаў альбо класіку беларускай паэзіі на мовах свету. Гэта яшчэ адзін яркі эпізод шматнацыянальнага свята і яшчэ адзін крок да збліжэння і знаёмства з культурай іншых народаў.

Падчас семінара літаратары і выдаўцы дзяліліся здабыткамі ў галіне літаратурных стасункаў. З самых цікавых праектаў, рэалізаваных апошнім часам, называлі ў тым ліку выданне верша Янкі Купалы „А хто там ідзе" на беларускай мове і ў перакладзе на сто моў свету. Пабачылі свет вершы паэта і на славацкай мове асобным выданнем. Зараз ідзе праца па перакладзе іх на карэйскую мову. А па-беларуску загучаць творы карэйскіх аўтараў. У свой час пабачыла свет выданне санетаў Янкі Купалы на сямі мовах свету. Гэты праект мяркуецца ўзнавіць, і колькасць перакладаў значна ўзрасце. Перакладаюцца сёння не толькі класікі літаратуры — тлумачылі ўдзельнікі сустрэчы. Ёсць цікавасць і да сучасных аўтараў. Займаюцца гэтым у асноўным самі пісьменнікі, а стасункі і цікавасць да твораў калег па творчым цэху ўзнікаюць у тым ліку падчас такіх сустрэч. Вядомы сучасны пісьменнік з Расіі Валерый Казакоў згадаў, што праз гродзенскага сябра пазнаёміўся з пісьменніцай з Беластока Мірай Лукшай, якая пераклала на польскую мову яго раман. Жан Гараньён згадваў пра свае пераклады на французскую мову раманаў сучасных беларускіх празаікаў. Таму кожная міжнародная сустрэча — яшчэ адзін крок да ўмацавання літаратурных стасункаў, а ў выніку — павышэння папулярнасці беларускай літаратуры ў свеце, знаёмства чытача з лепшымі творамі замежных аўтараў. На жаль, пераклады твораў аўтараў суседніх краін і іх выданні не падтрымліваюцца дзяржавамі, а толькі некаторыя выдавецтвы, як напрыклад варшаўскі „IBIS", стараюцца знаёміць чытача ў сваёй краіне з вартымі ўвагі творамі аўтараў з іншай краіны — пра выданне варшаўска-гродзенскага зборніка з серыі „Масты" і яго прамоцыю ў Польшчы і на Гродзеншчыне расказала паэтэса і дзячка Людміла Кебіч (выдатна па-беларуску, хаця імпрэзы, з-за прысутнасці замежных гасцей, вяліся на рускай мове).





Галоўны рэдактар часопіса „Маладосць" Святлана Воцінава прыдумала зрэалізаваць у сценах музея Максіма Багдановіча незвычайны сцэнарый. На прыкладзе аднаго верша паэта „Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы" распавесці пра пераклады на многія мовы свету. Лірычная мініяцюра, апублікаваная ў 1915 годзе ў газеце „Наша ніва" (Вільня) у форме вольнага верлібра, належыць да філасофскай лірыкі паэта. Прэзентацыя прайшла пад загалоўкам „Максім Багдановіч і ўвесь свет". На імпрэзу прыехалі, між іншым, Глеб Кудрашоў, філолаг, публіцыст, краязнавец, дацэнт кафедры журналістыкі Палтаўскага нацыянальнага педагагічнага ўніверсітэта імя В. Караленкі (Украіна); Марыя Кобец, паэтка, перакладчыца, журналістка з Пінскага раёна Брэсцкай вобласці; Яронімас Лауцюс, паэт, дырэктар і галоўны рэдактар выдавецтва „Тры зорачкі", заснавальнік Сусветнай асацыяцыі літоўскіх дзяцей „Літоўская дзіцячая кніга"; Сандра Ратніеце, член праўлення Саюза пісьменнікаў Латвіі, журналістка; Марат Гаджыеў, галоўны рэдактар выдавецтва „Каўказскі экспрэс" і Каўказскай літаратурна-мастацкай газеты „Горцы", дырэктар „Каўказскага дома перакладаў"; куратар дагестанскага кніжнага кірмашу „Тарко-Тау" Саід Ніналалаў, пісьменнік, публіцыст (Дагестан). Загадчыца літаратурнага аддзела музея Алена Рапінчук правяла для гасцей экскурсію, распавяла пра жыццё і творчасць выдатнага беларускага паэта, пра першыя яго дзіцячыя гады, праведзеныя ў Гродне.

Мікалай Трус, намеснік галоўнага рэдактара часопіса „Полымя", пазнаёміў гасцей з праектам, які ажыццявіў холдынг „Звязда" на старонках сайта **„Сугучча"**. Ідэя перакласці адзін верш на шматлікія мовы ўзнікла як своеасаблівы падарунак да юбілею класіка. У 2015 годзе верш „Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы" знайшоў сваё адлюстраванне ў дваццаці лепшых перакладах. Праектам зацікавіліся пісьменнікі, студэнты-філолагі, маладыя паэты, супрацоўнікі літаратурных часопісаў, дыпламатычных місій у Мінску, настаўнікі, аматары паэзіі. Верш перавялі на польскую, украінскую, чарнагорскую, рускую, іспанскую, нямецкую, англійскую, ідыш, французскую, кітайскую, японскую, татарскую, лакскайскую, табасаранскую (Дагестан) і іншыя мовы. У снежаньскім нумары часопіса „Маладосць" за 2016 год да 125-годдзя Максіма Багдановіча падвялі вынікі, апублікавалі ўсе пераклады вядомага верша. У музеі Максіма Багдановіча галоўны рэдактар часопіса „Маладосць" прадставіла перад пісьменнікамі вынікі часопіснага праекта і інтэрнэт-акцыі „Максім Багдановіч на мовах народаў свету". Вакол верша „Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы" і вёўся ўвесь сцэнарый сустрэчы.

*Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы/ У ціхую сінюю ноч/ І сказаць:/ „Бачыце гэтыя буйныя зоркі / Ясныя зоркі Геркулеса?/ Да іх ляціць нашае сонца / І нясецца за сонцам зямля / Хто мы такія?/ Толькі падарожныя, — папутнікі сярод нябёс / Нашто ж на зямлі/ Сваркі і звадкі, боль і горыч / Калі ўсе мы разам ляцім/ Да зор?"*

Хто мы такія, Максім?

(лук)

# Гродна вачыма сучасніка



Фота Міры Лукшы

У чым сіла народа? У адметнасці, сардэчнасці, гасціннасці, я думаю, што ў адсутнасці фанабэрыстасці і мыслення, што мы — самыя лепшыя. Словы, словы гэта толькі азартная гульня і магчымасць гульбы імі.

На самой справе, няма слоў дастатковых для апісання красы Гродзенскай зямлі і горада Гродна. Я была ў гэтым горадзе госцем, горадзе Ажэшкі, Міцкевіча, Радзевічанкі. Калі я стала першы раз на бруку гродзенскага Старога горада, проста анямела. Перад маімі вачыма пракаціліся выявы: даўніх габрэяў з пэйсамі, беларускіх сялян, плаваючых на чайках па рацэ Нёман, разадзетых дам з крыналінамі, баяраў, княгінь, князёў... Цудоўныя каменіцы і храмы гэта архітэктурныя жамчужыны і шэдэўры; аж дух займае, што ўсё трымаецца ў такім стане. Гродна гэта горад поўны чароўнасці, дзе яму ўдалося аб'яднаць гісторыю старых часоў з сучаснасцю.

У гэтым горадзе раз на два гады адбываецца Фестываль нацыянальных культур. На фестывалі сустракаюць людзі культуры розных нацыянальнасцей Беларусі, якіх у краіне пражывае 87.

На Цэнтральнай плошчы Леніна велізарная дэкарацыя. Яна прызначана для выступлення прафесійных музыкальна-танцавальных калектываў. Тут паклон прафесарам Людміле і Міколу Фадзіным, якія прадставілі на гэтай прэстыжнай сцэне два аматарскія калектывы з Польшчы: калектыў песні «Васілёчкі» (што працуе ў БДК у Бельску-Падляшскім) і калектыў песні «Арляне» (працуе ў ГДК у Орлі). Трэба дадаць, што вялікую працу ўклалі ў гэта таксама дырэктарка БДК Альжбета Фіёнк ды дырэктарка ГДК у Орлі Анна Несцярук, кіраўнік «Васілёчкаў» Ніна Бялецкая і кіраўнік калектыву «Арляне» Альжбета Назарэвіч. Успамінаем таксама музыкаў з Музычнай акадэміі ў Гродне: Валянціну — скрыпачку і Сярожу — кларнетыста. Гэта людзі, якія служаць сваімі талентамі, ведамі, вопытам і мудрасцю ды заўсёды гатовы для дапамогі.

На Фестывалі арганізаваны і раскіданы па ўсім горадзе падворкі розных нацыянальнасцей: яўрэйскі, польскі, турэцкі і многія іншыя, якіх не пералічыць. Гродна расспяванае, растанцаванае, маляўнічае, зіхоча рознакаляровымі касцюмамі, пахаціць шматлікімі водарамі кулінарыі розных народаў. У парку сустракаем шмат рамесных крамак розных нацыянальнасцей. Варта таксама адзначыць, што Гродна з'яўляецца чыстым горадам, няма ў ім хуліганства, усюды акуратнасць і парадак. Чуецца гоман, музыка, на тварах людзей ззяе радасць і ветлівасць. У гэтым горадзе сустракаемся са шчырай гасціннасцю. Жыхары горада — людзі з высокай асабістай культурай.

У невялікай кватэры спадарства Фадзіных, у якой жывуць тры пакаленні, была прынята і пачаставаная моцная група спевакоў у трыццаць асоб. Мілыя гаспадары — дырыжор і харэограф калектываў не толькі прынялі, але і правялі гасцей да аўтобуса. Раней яны напрацаваліся, каб падрыхтаваць харыстаў і паказаць ім горад Гродна. Гэтыя людзі заслугоўваюць самай высокай павагі і захаплення.

Мой паклон таксама ў бок спевакоў-выканаўцаў, якія выступілі ў Гродне, за арганізаванасць і паказ сябе ў іншай краіне з найлепшымі выканаўцамі. Мы прадстаўлялі ў Беларусі Польшчу і польскую беларускую меншасць. Гледачы сустрэлі нас бурнымі апладысментамі.

Гродна... горад вялікіх людзей з даўняй і вельмі здольных людзей сучаснай эпох. Горад, візітнай карткай якога з'яўляецца высокая асабістая культура жыхароў, эстэтыка, гасціннасць і чысціня. Едучы ў бок дзяржаўнай мяжы не сустрэнеш на абочынах смецця, бутэлек і іншых нечыстот. Шырока раскінуўшы шырокія плечы сустракае гасцей рака Нёман.

У гэты горад я хацела б вярнуцца, спакойна сесці ў двары сядзібы Элізы Ажэшкі, памарыць: пра тое, што было і так хутка прайшло, пра тое, як добра быць у калектыве «Васілёчкі», каб глядзець у цёплыя, сардэчныя твары беларусаў і спадарства Фадзіных, сказаць дзякуй спадарству Фадзіным за іх нялёгкую працу і намаганні, укладзеныя ў калектыў, парадаваць душу размовамі з цудоўнай кіраўнічкай спадарыняй Нінай Бялецкай, уцешыць душу любімымі сяброўкамі і сябрамі з калектыву і атрымліваць асалоду ад таго, што мне вельмі пашанцавала і пашчасціла быць сярод іх.

Сёння я разумею Міцкевічаву тугу па краіне і яго меланхолію.

Гродна гэта горад, які робіць з душы рай, там проста хочацца быць.

Я ў гэты горад яшчэ вярнуся.

**Арынка ПІВОВАР**

computational text & speech platform

corpus.by

# http://corpus.by

Апошнія дваццаць гадоў чалавецтва ўсё больш жыве пад уплывам інфармацыйных тэхналогій. Яны ўвайшлі ў сучаснае жыццё і, праўдападобна, не хутка з яго выйдуць, і тое, што раней уяўлялася як нешта фантастычнае, цяпер стала звычайнай камп'ютарнай функцыяй. Як, напрыклад, сэрвіс, які прапануе сайт **http://corpus.by** для апрацоўкі тэкставай і гукавой інфармацыі для розных тэматычных дамена ў.

Калі цікаўны карыстальнік „зойдзе" на дадзены сайт, то перад яго вачыма адкрыецца тое, што можа выклікаць нейкае неразуменне. Напрыклад, наўрад ці ў звычайным жыцці людзям часта бывае патрэбнай ідэнтыфікацыя амографаў, альбо падлік частотнасці слоў, альбо праверка правапісу „ў". Але калі вы пісьменнік, лінгвіст, праграміст ці спецыяліст звязанай з маўленнем прафесіі, то такі сэрвіс можа ў нечым аблегчыць вашу працу. Акрамя гэтага, ён дапамагае пры вывучэнні беларускай мовы, бо пры загрузцы ў яго беларускамоўнага тэксту мы можам спраўдзіць, ці не мае наша пісаніна памылак. Сайт запэўнівае, што ўсе ўведзеныя на ім даныя будуць выкарыстоўвацца толькі ў навуковых мэтах для ўдасканалення алгарытмаў.

Сэрвіс стварылі супрацоўнікі Лабараторыі распазнавання і сінтэзу маўлення Аб'яднанага інстытута праблем інфарматыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. „Усё пачалося з таго, што наша лабараторыя распрацавала аўтаматычную сістэму сінтэзу маўлення і выклала яе ў інтэрнэт для вольнага карыстання. Згенераванае маўленне не самае натуральнае, але разабраць словы можна. Сінтэзатар звычайна выкарыстоўваецца для таго, каб паказаць студэнтам і выкладчыкам, як у прынцыпе любы беларускамоўны тэкст можа ператварыцца з паслядоўнасці электронных сімвалаў спачатку ў арфаграфічны тэкст, а потым — у фанетычны, які ў выніку прагаворвае машына. Гэта вельмі важна разумець, каб будаваць чалавека-машынны інтэрфейс», — цытуе загадчыка лабараторыі Юрася Гецэвіча беларуская газета „Наша ніва".

Паводле стваральнікаў сэрвісу, адна з найбольш распрацаваных на ім опцый — «Праверка правапісу». Праграма праганяе тэкст і па беларускіх слоўніках, і па замежных. Дарэчы, карыстальнік можа стварыць і дадаць свой уласны слоўнік, якім іншыя пры жаданні таксама могуць карыстацца. „Сэрвіс пакуль што не праяўляе інтэлект, не шукае сэнсавыя памылкі, а звяраецца з усімі тымі базамі, што ў нас ёсць. Напрыклад, калі ў слове ёсць памылка, але праз яе ўтвараецца новае слова, якое існуе, такую памылку сэрвіс не ўбачыць. Калі ж слова не сустракаецца ні ў адным слоўніку, праграма абавязкова пакажа гэта", — распавядаў газеце малодшы навуковы супрацоўнік лабараторыі Станіслаў Лысы.

Цікава, што сайт мае толькі дзве моўныя версіі — беларускую і англійскую. Яшчэ выкарыстоўваецца для розных опцый руская мова. Акрамя таго, Corpus.by можа дапамагчы пры вывучэнні англійскай мовы, бо на ім ёсць опцыя. Праўда, вывучэнне гэта вядзецца па-руску.

„Супрацоўнікі лабараторыі заклікаюць карыстальнікаў заходзіць на інтэрнэт-рэсурс Corpus.by і знаёміцца з сэрвісамі, амаль кожны з якіх мае падрабязнае апісанне. А таксама ўключацца ў іх удасканаленне і паведамляць пра тыя рэчы, якія можна палепшыць, а таксама памылкі, што варта выправіць", — сцвярджае „Наша ніва".

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

Падзеі і асобы БНР



## 60 гадоў з дня смерці Уладзіміра ПІГУЛЕЎСКАГА

Беларускі грамадскі дзеяч Уладзімір Пігулеўскі нарадзіўся 10 сакавіка 1889 г. у Гродне ў сям'і калежскага сакратара гарадской управы. Неўзабаве бацькі пераехалі ў Мінск. Там ён у 1907 г. скончыў мужчынскую класічную гімназію. Далучыўся да рэвалюцыйнага гуртка, удзельнічаў у дэманстрацыях. У 1908 г. паступіў у Пецярбургскі ўніверсітэт на гісторыка-філалагічны факультэт. Адначасна працаваў у Прадамеце — вялізным металургічным сіндыкаце.

З 1912 г. на вайсковай службе ў Гродне, з пачатку Першай сусветнай вайны ў рэгулярнай арміі. Ваенная кар'ера расцягнулася да 1917 г. За мужнасць і гераізм у баях узнагароджаны ордэнамі Святой Ганны і Святога Станіслава. Пасля вайны Пігулеўскі на некаторы час апынуўся ў польскай турме, потым цяжка хварэў, нават быў пры смерці, перабіваўся выпадковымі заробкамі. У гэты час далучыўся да беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху, займаў адказныя пасады пры кіраўніцтве БНР, быў службоўцам для спецыяльных даручэнняў пры Міністэрстве замежных спраў, удзельнічаў у Беларускай нацыянальна-палітычнай канферэнцыі ў Рызе. Жыў у Мінску, Вільні, Коўне.

У 1922 г. па запрашэнні дырэктара Дзяржаўнай беларускай гімназіі ў Дзвінску Івана Краскоўскага Пігулеўскі прыехаў у Латвію, працаваў у Дзвінскай беларускай гімназіі. З вясны 1924 г. займаў пасаду дырэктара Люцынскай (Лудзенскай) гімназіі. У гэты ж час перакладаў на беларускую мову латышскага драматурга Рудольфа Блаўманіса. Паралельна складаў падручнікі для беларускіх дзяцей у Латвіі. Рэакцыйныя колы латвійскага ўрада, якія не жадалі бачыць беларусаў самастойнай нацыяй, прыдумалі так званую «беларускую справу». На судовым працэсе 1925 г. беларускіх настаўнікаў звінавацілі ў зносінах з Савецкай Беларуссю і намеры далучыць да яе частку Латвіі. Быў арыштаваны і Пігулеўскі. Віна не была даказана, але некаторых беларускіх дзеячаў выслалі за межы Латвіі, а частку беларускіх школ, у тым ліку Люцынскую гімназію, зачынілі. Пігулеўскага апраўдалі, але пазбавілі права займацца педагагічнай дзейнасцю. Ён пераехаў у Рыгу, уладкаваўся ў Транзітны кааператыўны банк. Працягваў культурна-асветніцкую працу. Сем гадоў (1927-1934) быў кіраўніком Беларускага аддзела пры Міністэрстве асветы Латвіі. У 1926 годзе ўдзельнічаў у акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу, арганізаванай Інбелкультам. Далучыўся да сацыял-дэмакратычнай партыі, прайшоў у Сейм ад Латгаліі.

Пры рэжыме Ульманіса ў Латвіі пачаўся перыяд рэпрэсій. Зачыняліся нацыянальныя школы, прэса. Пігулеўскага звольнілі з працы, потым арыштавалі і выслалі ў Ліепайскі лагер. Пасля вызвалення працаваў у Міністэрстве асветы школьным інспектарам. На пачатку вайны перапраўляў у тыл дзяцей з Латгаліі. У Саратаўскай вобласці быў дырэктарам сярэдняй школы, інспектарам РАНА, у Мянгерах (Татарстан) працаваў выхавальнікам у дзіцячым доме з латышскімі дзецьмі. Вярнуўшыся ў 1945 годзе з эвакуацыі, Пігулеўскі працягваў педагагічную дзейнасць у Рыжскай мараходнай вучэльні. У 1950 годзе пайшоў на пенсію.

Літаратурная спадчына Уладзіміра Пігулеўскага ўключае спробы ў галіне прозы, паэзіі, драматургіі і публіцыстыку. Перш за ўсё яго талент раскрыўся ў галіне мастацкага перакладу. Гэтаму спрыяла добрае веданне замежных моў (французскай, латышскай, чэшскай, польскай, украінскай). У 1957 г. Уладіміра Пігулеўскага прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Памёр беларускі дзеяч 17 чэрвеня 1958 г.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## У чым я правінаваціўся?

Чацвёрты год змагаюся з хваробай ног. Шматслаёвая дэгенерацыя суставаў і пазваночніка, вывіх правай сцегнавой кульшы ды звышартэрыйны ціск дазволілі мне пахадайнічаць за накіраванне ў санаторыю. Заява была адобрана Ваяводскім аддзяленнем Нацыянальнага фонду здароўя і мне прызначылі трохтыднёвае лячэнне ў курортным асяродку ў Голдапе. Не пакарыстаўся дабрадзейнасцю, паколькі пражываю адзінока (старэйшая дачка адказалася ад апекі). Без апекуна я не ў змозе быў адбыць так далёкае падарожжа. Звярнуў затым накіраванне ў НФЗ з аргументацыяй і папрасіў, каб мне дазволілі праходзіць рэабілітацыю бліжэй месца пражывання, у Гайнаўцы або Белавежы. І гэтым разам мая заява была адобрана медычнымі службамі, як НФЗ, так і шпіталем у Гайнаўцы. Ад артапеда гайнаўскай паліклінікі я атрымаў накіраванне на шпітальнае лячэнне. Тэрмін прыёму быў назначаны ардынатарам на 28 траўня. У гэтым часе я прайшоў двухтыднёвую шпіталізацыю на аддзяленні ўнутраных хвароб (18-30 красавіка), затым аперацыю вялікага пальца левай ступні (7-9 траўня). Засталося адно чакаць прыёму на рэабілітацыйнае аддзяленне. Варта адзначыць, што з ранейшай шпіталізацыі я быў задаволены, бо закончылася яна паспяхова, прытым не меў я праблемы з доступам да інтэрнэту. Першыя складанасці выніклі 28 траўня. А было гэта ў палаце прыёму. Калі пасля праверкі дакументаў і камп'ютарнай рэгістрацыі патэлефанавалі на рэабілітацыю і папрасілі забраць пацыента, дык пачулі ў адказ, што няма месца.

— Як гэта няма месца? — загаласіў медык з палаты прыёму. — У накіраванні, чорным па белым напісана: дата прыёму — 28 мая, заверана пячаткай ардынатара аддзялення... Некалькі мінут доўжылася „пшэпыханка” паміж палатай прыёму а аддзяленнем рэабілітацыі. На канец папрасілі падаць прозвішча пацыента. Калі назвалі маё прозвішча ды імя, дык... знайшлося месца. Але гэта быў пачатак маіх праблем. Асноўная тычылася інтэрнэту. Я штодзень карыстаюся электроннай поштай ды рахункі рэалізую праз пасрэдніцтва аплікацыі „iPKO”. Затым неабходным стала падключыцца да шпітальнай сеткі інтэрнэту. У мінулым я не меў з гэтым праблемы. Меў згоду кіраўніцтва шпіталя. Гэтым разам штосьці скрыганула. Ардынатар рэабілітацыйнага аддзялення заявіў: „З 25 мая абавязвае новы закон аб ахове даных асабовых. Пацыентам не дазваляецца падключацца да шпітальнай сеткі, бо пагражае гэта ўзломам да інфармацыйнай сістэмы ўстановы і пакражай асабовых даных”. Я, разумеецца, падаў пісьмовую заяву дырэктару шпіталя з просьбай высвятліць справу. Справа закончылася паспяхова. Шпітальны інфарматык дапамог мне падключыць ноўтбук і я зараз магу не толькі рэалізаваць усялякія рахункі, карыстацца электроннай поштай, але і пасылаць тэксты ў рэдакцыю. Выказваю пры тым сардэчную падзяку кіраўніцтву шпіталя, а перш за ўсё дырэктару Рыгору Тамашуку. Вялікае дзякуй Вам, спадар дырэктар, за належнае зразуменне жыццёвых праблем асоб з абмежаваннямі.

**Уладзімір СІДАРУК**

PS. Не магу адно зразумець непрыязных адносін ардынатара рэабілітацыйнага аддзялення да маёй асобы. Якія службовыя засцярогі, як пацыенту, прад'яўляеце ў мой адрас. Скажыце публічна ў чым я правінаваціўся ?

У.С.

## Дэмаграфія Кляшчэлеўскай гміны

Кляшчэлеўская гміна Гайнаўскага павета мяжуе з пяццю гмінамі: Дубіцкай, Чаромхаўскай, Мілейчыцкай, Арлянскай і Боцькаўскай. Займае плошчу ў 14 262 гектары і складае 9% тэрыторыі Гайнаўскага павета. У Кляшчэлеўскай гміне пражывае 2588 чалавек у пятнаццаці населеных пунктах. Тры гады таму было 2966 асоб. Шчыльнасць насельніцтва 19 асоб на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае 103 жанчыны. Найбольшыя мясцовасці гэта горад Кляшчэлі — ён налічвае 1311 чалавек ды вёскі Дабрывада — 231, Дашы — 217, Палічна — 147, Сакі — 126, Сухавольцы — 120 і Тапаркі — 103. Сярэднія і малыя вёскі налічваюць Пагрэбы — 62, Залешаны — 51, Курашава — 49, Грузка — 46, Рэпчыцы — 40, Жукі — 38, Белая Страж — 30 і Пятроўшчына — 27 чалавек. У Косьнай жывуць толькі тры чалавекі.

У параўнанні да колькасці жыхароў у 2016 годзе а цяпер дык паменшала іх у Клячшчэлях, Дабрывадзе, Палічнай, Сухавольцах, Пагрэбах, Залешанах, Белай Стражы і ў Грузцы ды пабольшала ў Саках. У вёсках штораз больш пенсіянераў. Да залатога вяселля сёлета рыхтуецца сем пар. У мінулым годзе было шэсць такіх пар і атрымалі яны медалі „За шматгадовае шлюбнае жыццё”. Зараз у горадзе Кляшчэлі і ў вёсках стагадовых жыхароў няма. Найстарэйшы мае 99 гадоў. Колькасць жыхароў у гміне з году ў год змяншаецца.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

**СПАЧУВАННІ**

Шчырыя словы спачування нашаму сябру **Вячаславу Харужаму** і Яго сям'і з прычыны напаткаўшага гора **– смерці бацькі.**

**рэдакцыя Нівы**

**СПАЧУВАННІ**

Словы шчырага спачування **доктар Вользе Франчук** з Седльцаў з прычыны напаткаўшага Яе гора **– смерці мужа Уладзіміра**

**— выказваюць Івона і Адам Бобрык**

## Чэрвеньскія зёлкі

Шмат гадоў працуе пункт скупкі лячэбных зёлак суполкі з абмежаванай адказнасцю „Руно” ў Баб'яй Гары Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Зараз зёлкавы сезон у разгары. Зёлкі збіраюць і прыносяць жыхары перш-наперш Семенякоўшчыны, Семяноўкі, Баравых і Баб'яй Гары.

Сёлетнія цэны за кілаграм сушанага зелля парыла 3,75 зл., крапівы — 2,50 зл., сніткі — 5 зл., святаянніку — 3,75 зл., амялы — 2 зл., марэны — 25 зл., мядункі — 15 зл., баркуну — 4 зл., гладуну і крынічніку — па 12 зл., маруны — 4 зл., гусялапкі — 16 зл. і сярэбраніку — 9 зл.

Цяпер за кілаграм сушанага лісця брусніцы і трыпутніка плацяць па 12 злотых, крапівы — 8,50 зл., падбелу і суніцы — па 10 зл., адуванчыка — 7 зл. ды за карэнне парыла — 15 зл., пяцёрніку — 13 зл., лопуху — 12,60 зл., конскага шчаўуху — 7 зл. і жывакосту — 6 зл., а за цвет чырвонай канюшыны — 8,90 зл., парыла — 10 зл. і — за вельмі ж дробны цвет глухой крапівы — 180 зл. (!) **(яц)**

## Адгаданка

**1.** прылада для курэння з цыбука і коўшыка, **2**. жончына або мужава маці, **3.** рэлігійнасць, **4.** Адамава спакушальніца, **5.** шматгадовы палярны лёд, **6.** соціна гектара, **7.** гарадок між Полацкам і Лепелем на рэчцы Ушача, **8.** дугападобная палоска валасоў над вочнай ямінай, **9.** бліскавіца, **10.** малодшае за падлетка, **11.** лік сімвалізаваны лацінскай літарай V.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | | | 2 | |
| | 3 | | | | | | | | 4 | |
| | | | | | 5 | 6 | | 7 | | |
| | | | | | | | | | | |
| 8 | | | | | 9 | 10 | | | 11 | |

**Адказ на адгаданку з 21 нумара**

Вага, Друць, дэпо, Іўе, касач, Стыр.

Рашэнне: **Скрыпучае дрэва доўга стаіць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

## 17.06 — 23.06

**(22.03. — 20.04.)** 19-23.06. будзеш кіпець энергіяй, будзеш трывалы, вытрымаеш стрэс. Можаш учыніць штосьці вялікае! 18-22.06. не падпісвай важных дакументаў і не ідзі на ніякія ўступкі. Умела балансуй паміж уласнымі патрэбамі і тым, чаго чакаюць ад цябе іншыя. 19-21.06. цікавыя задумы, якія прыйдуць табе ў галаву, абгавары з блізкімі.

**(21.04. — 21.05.)** 17-21.06. — многа аптымізму, энергіі. З даверам глянеш у будучыню, бо дзякуючы свайму адданню і шчаслівым выпадкам пачнуцца ў цябе немалыя поспехі. З 20.06. (да 24.06.) мусіш абдумваць кожны крок і кожнае слова. Не ўсе цябе зразумеюць на працы. Займіся больш сваёй парай. 18-22.06. добра слухай тое, што кажа партнёр; няма з ім цяпер жартаў. 19-21.06. знойдуцца трапныя аргументы за тваё павышэнне на працы.

**(22.05. — 22.06.)** 19-23.06. развяжаш усе найважнейшыя справы, будзеш рашучы, канкрэтны і пераканаеш іншых. У пары кончацца сваркі, пачнецца магчымасць лепшага дыялогу. Калі з вамі здаўна блага, дык хоць у спакоі расстанецеся. Цяжэй, чым думаў, будзе з выплатай пазыкі і абавязацельстваў. Але вельмі добрая форма і сіла.

**(23.06. — 23.07.)** Можаш спадзявацца неспадзевак і не вельмі прыемных сітуацый. Усё ж штосьці выйдзе з тваіх нясмелых праектаў. З 21.06. прыток ажыўляльнай энергіі. 18-21.06. заляцаць табе ў галаву вельмі добрыя задумы і творчыя вырашэнні праблем. Добры настрой, энтузіязм, вера ў сябе. Самотнаму Раку ўдасца спаткацца з кімсьці цікавым, ды гаворка будзе перш за ўсё пра службовыя справы. Да 20.06. старайся ашчаджаць.

**(24.07. — 23.08.)** 17-21.06. цяжкасці, асабліва пры важных размовах і негацыяцыях. 18-20.06. зазязеш на сходзе, сустрэчы з кліентамі. Для блізкіх будзеш занадта неласкавы. Крывадушнікаў рассакрэціш адразу. Хтосьці схоча цісніць на цябе, што давядзе цябе амаль да злосці. Ды магчымыя шчаслівыя выпадкі (як і ўвесь месяц). 18-23.06. можаш сустрэць кагосьці, з кім будзе ў цябе цудоўны інтым.

**(24.08. — 23.09.)** 18-20.06. зазяеш у публічнай дыскусіі; удалая сустрэча з вельмі важнай асобай. 19-23.06. зноў пачнуць цябе моцна турбаваць з-за таго, што было калісьці. Можаш даць добрыя парады іншым дзякуючы свайму вопыту. 17-21.06. будзеш адчуваць стому ад таго, што прымушаць цябе будуць да таго, на што не маеш ахвоты. А спатрэбішся ты як кансультант у нейкіх фірмовых справах. З 21.06. вельмі будуць табе спрыяць акалічнасці і людзі. 22-24.06. чыесьці словы цябе могуць укалоць.

**(24.09. — 23.10.)** 18-20.06. можаш многаму навучыцца і папраўляць свае вынікі. 19-21.06. высветліш загадкі і знойдзеш згубленае. 18-22.06 гарачыя жарсці ў пары. 22-24.06. на працы магчымыя няладныя здарэнні, з якіх выблытаешся пры дапамозе сяброў. Маеш прыхільнасць атачэння ад Венеры. Наладзіш карысныя знаёмствы. Асабліва можаш разлічваць на шчаслівыя выпадкі 17-21.06.

**(24.10. — 22.11.)** 19-21.06. вялікія пахвалы вельмі цябе ўцешаць. З 19 да 23.06. твая воля нязломная, упартасць, сіла — дасі рады кожнай, нават найцяжэйшай справе. Ды з 17.06 да 21.06. ты лішне рызыкоўны, прагны, з ахвотай дамінаваць над іншымі. З 22.06. (да 24.06.) хтосьці можа папракнуць цябе ў памылках. У ежу дадавай маяран і кмен.

**(23.11. — 22.12.)** 17-21.06 — шчасце не пакіне цябе ні на крок! Маеш шанц наладзіць каштоўныя і цікавыя замежныя кантакты. 18-23.06. магчымая незабыўная эратычная прыгода. Ды з 22.06. магчымы кепскі настрой шэфа, але пасля настрой цэлага калектыву паправіцца. І не патрабуй ад іншых зашмат. Пільнуй рэцэпты.

**(23.12. — 20.01.)** Думкі аб заведзенні сям'і, можаш быць уцягнуты таксама ў вір чыйсьці падрыхтовак да вяселля. Ахвота ўзяцца з поспехам за рамонт ці грунтоўнае прыбіранне дома ці дачы. Асцярожна з фінансамі. Хай хатнія не ўлазяць табе цяпер на мазоль! 19-21.06. партнёр будзе насіць цябе на руках! Ад 21.06. Сонца асвятляе твой сектар сувязей, можаш знайсці сваю палавінку. З 21.06. можаш неспадзявана перасяліцца. Але з 22.06. (да 24.06.), здабудзеш добрыя інфармацыі ў падвартнай сітуацыі, можаш улезці ў кепскія лады.

**(21.01. — 19.02.)** Акажаш сваю рашучасць, а нават баявітасць у абароне сваіх поглядаў і сістэмы каштоўнасцей. Вельмі добры час на гандлёвыя здзелкі. На працы поспехі, добрая атмасфера. Можаш бліжэй пазнаёміцца з асобай, якая цябе здаўна цікавіла. Ты цяпер творчы і прыцягальны! 18-23.06. можаш эратычнае захапленне памыліць з сапраўдным каханнем. У фінансах някепска, пры здзелках таргуйся.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш адданы без рэшты працы, дому і ўсяму, што сапраўды любіш. 18-20.06. добра задбаеш пра свае інтарэсы. 19-21.06. пачуеш ці прачытаеш рамантычныя прызнанні. Сэнс і мэта жыцця — быць сярод блізкіх. Абавязкова збегай да стаматолага!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Не думал жить хорошо, но пришлось — гэтую крылатую фразу прачытаў я калісь у Сакрата Яновіча. У агульнасці можна яе пашырыць і за рамкі згаднага дабрабыту — можна так сказаць пра кожную нечаканасць...

Не думаў я ўжо падавацца ў ніякае замежжа. Нават у блізенькую Беларусь. Адзіныя сваякі, што жылі ў Ціхаволі, з'ехалі нейкіх дваццаць гадоў таму ў Маскву, а ўсялякую іншую цікавасць да гэтага блізенькага замежжа знеахвоцілі мне яе чыноўнікі, не толькі ў беластоцкім консульстве...

Рэзкі жыццёвы паварот можа чалавека выкінуць на такі адхон, дзе зусім новы антураж. Гэтак здарылася і са мною. І запар з'явілася магчымасць з'ездзіць у Еўропу. Мова тут не пра геаграфічную Еўропу, а пра грамадскую, дзе чыноўнікі не будуць тэлефанаваць у сталічнае міністэрства і дапытвацца, і гадзінамі чакаць адказу, ці даць маёй асобе дазвол уехаць у іхнюю дзяржаву...

У Азіі давялося мне пабываць амаль пяцьдзясят гадоў таму, а ў пазатутэйшай Еўропе — ніколі. Нават калі ў 1970-я гады была магчымасць з'ездзіць беспашпартна ў ГДР — не пакарыстаўся нагодай — не хацелася валачыся цераз цэлую Польшчу. А ў Венгрыю зацягнулі знаёмыя — не выпадала з імі тармасіцца...

Гэтае маё гультайства да падарожжаў перамагла ўсё ж такі цікавасць да тае іншае Еўропы, куды падарожжы лягчэй як пяро, бо аэрапланам. Да таго ж у зусім іншы чым у нас краявід, бо ў засеўшую на альпійскіх вяршынях нашага кантынента Швейцарыю, а дакладней — у Цюрых. Вяршыні гэтыя так літаральныя, як і метафарычныя.

Экзатычным для нас можа падацца грамадскі строй; Вікіпедыя: „Швейцарыя — федэратыўная парламенцкая рэспубліка. Кіраўнік дзяржавы і ўрада — прэзідэнт Канфедэрацыі, які на аснове ратацыі выбіраецца на 1 год парламентам з членаў урада — федэральных саветнікаў; ён старшынствуе на пасяджэннях Федэральнага савета і выконвае ў асноўным прадстаўнічыя функцыі. Кожны кантон мае сваю канстытуцыю, парламент і ўрад. Калектыўным кіраўніком дзяржавы і вышэйшым органам выканаўчай улады з'яўляецца Федэральны савет, у склад якога ўваходзяць 7 федэральных саветнікаў, што выбіраюцца Федэральным Сходам на 4 гады. Усе федэральныя саветнікі роўныя ў правах і прымаюць рашэнні на калегіяльнай аснове. Кожны з іх кіруе адным з 7 федэральных дэпартаментаў (міністэрстваў) і пры афіцыйных візітах за мяжу прадстаўляе Федэральны савет у цэлым". Такому ў нашай „Еўропе" можна толькі дзівавацца... Далей у іншай моўнай версіі: „Каждый год парламент назначает президента конфедерации и вице-президента из числа членов Совета, без права переназначения на следующий год. На практике федеральные советники практически всегда переизбираются, так что состав Совета может оставаться неизменным в течение нескольких сроков полномочий парламента, и по обычаю пост президента занимают поочередно все члены Совета". У нашай, моцна яшчэ інфантыльнай, частцы Еўропы дзяржаўныя кіраўнікі або інфантыльна захапляюцца хлапечымі гульнямі, або самі асабіста інфантыльна пераварочваюць розныя дзяржаўныя цацкі. Вось калі б нашым навакольным стырнавым даць у рукі швейцарскія рулі, то напрацаваліся б яны не менш, чым міфічны Геракл... „Все законы, принятые парламентом, могут быть утверждены или отвергнуты на (факультативном) всенародном референдуме (прямая демократия), для проведения которого после принятия закона в 100-дневный срок необходимо собрать 50 тысяч подписей. Изменения Конституции или вступления в международные организации требуют подтверждения на (обязательном) всенародном референдуме". Тое ўсенароддзе не надта рвецца ў міжнародныя хаўрусы; для прыкладу — у Арганізацыю Аб'яднаных Нацый Швейцарыя далучылася ў 2002 годзе з падачы 52% сваіх галасуючых. Да Еўрасаюза швейцарцы не далучыліся, але далучыліся да Шэнгенскай зоны. І да таго ж: „Szwajcarski konserwatyzm podkreśla fakt, że mimo tak solidnych tradycji demokratycznych kobiety uzyskały prawa wyborcze dopiero w lutym 1971 roku, a i to nie wszędzie. Najdłużej opierał się kanton Appenzell Innerrhoden, który ustąpił przed wyrokiem sądu najwyższego w roku 1990".



# Пад Альпамі

Від з Манастырскага мосту на Лімат; на далёкім плане — Альпы



Касцёл Фраўмюнстэр

Тамашняя рэлігійнасць таксама можа нам падацца экзатычнай; Вікіпедыя: „Szwajcarzy pod względem religijności nie odróżniają się od większości narodów Europy. Udział w praktykach religijnych, głównie z okazji wielkich uroczystości i najważniejszych świąt, ogranicza się do mniejszości. W zależności od kantonu i wyznania, systematyczny udział w nabożeństwach niedzielnych wynosi 6-9% wśród protestantów i 10-14% wśród katolików. Papiestwo, watykański centralizm i dogmatyczność Kościoła są poddawane krytyce nie tylko przez wiernych Kościoła rzymskokatolickiego, ale także przez hierarchię katolicką, która żąda większej niezależności Kościoła Szwajcarii od Watykanu. Większość istniejących w Szwajcarii parafii katolickich jest bardzo liberalna i egalitarna: w wielu kościołach, podobnie jak w kościołach reformowanych, nie ma obrazów i figur, najwyżej wiszące na ścianach krzyże; księża wbrew nauce Kościoła nierzadko łamią celibat i zakładają rodziny, jak również dokonują wielu zmian w tradycyjnej liturgii; nabożeństwa nieraz są prowadzone przez świeckich katechetów lub pastorów czy nawet pastorki z Kościoła reformowanego, gdy brakuje księży katolickich". Цікава, ці ў нашай тутэйшай „брацці ў Хрысце" такое было б магчыма. Швейцарыя, гэта як ні глядзець — дзяржава экзатычная... І на здзіў талерантная; Швейцарыя цягам сваёй гісторыі давала прытулак многім палітычным бежанцам з праўленых аўтарытарна дзяржаў...

Сталіцай Швейцарыі з'яўляецца Берн, аднак яе найважнейшым, гаспадарчым цэнтрам, эканамічным рухавіком краіны з'яўляецца Цюрых. Вікіпедыя: „Цюрых (ням.: Zürich), самы вялікі горад Швейцарыі, адміністрацыйны цэнтр кантона Цюрых, размешчаны на паўночным ускодзе краіны, на рацэ Лімат і Цюрыхскім возеры. У горадзе пражывае каля 400 тыс. чалавек, у агламерацыі — каля 2 млн чалавек". І далей: „Относится к глобальным городам. В 2011 году Цюрих занял второе место в мире по качеству жизни, в 2012 году признан самым дорогим городом мира. Над историческим центром возвышаются романо-готические соборы Гроссмюнстер, Фраумюнстер и церковь святого Петра. На острове расположена ратуша в стиле ренессанса".

Было б чым захапляцца, калі б хапіла часу — мой экскурс у гэтую экзатычную нам краіну быў толькі ўік-эндны. Калі мова пра час, а дакладней — пра яго меранне, то Швейцарыя з'яўляецца менавіта сімвалам таго мерання дакладнасці. Не было б гэтага скарбу ў швейцарцаў, калі б калісь французскія рэлігійныя шавіністы не прагналі са сваёй краіны гугенотаў, якія займаліся гадзіннікавым рамяством — гугеноты эмігравалі тады ў суседнюю ліберальную і талерантную Швейцарыю.

З-за недахопу часу не было магчымасці пабачыць многіх славутасцей горада. Вежу Пятровага касцёла, на гадзінніку якога найбольшы цыферблат у Еўропе — яму ў дыяметры амаль дзевяць метраў — удалося пабачыць толькі здалёк. Пра Bahnhofstrasse, najelegantszą ulicę handlową Szwajcarii i jedną z najbardziej prestiżowych na świecie, дзе skupiły się magazyny „haute couture" i sklepy oferujące najbardziej luksusowe towary: biżuterię i zegarki, futra, antyki i dzieła sztuki, згадваць не буду. Таксама пра Paradeplatz, дзе галоўныя швейцарскія банкі. І пра музей Kunsthaus, і пра музей FIFA, і пра сядзібу Міжнароднай футбольнай федэрацыі FIFA таксама згадваць не буду — не было ў мяне калі туды заглядаць. Затое крыху далей прыгадаю пра касцёлы Гросмюнстэр і Фраўмюнстэр, куды таксама не ўдалося заглянуць, але якія далікатна можна асацыяваць з Беларуссю...

І яшчэ пра Цюрых: „Silne gospodarczo i polityczne miasto w XVI wieku zaczęło rozwijać się intelektualnie, do czego wydatnie przyczynił się kaznodzieja Huldrych Zwingli, głoszący nauki reformacji. Przez parę kolejnych wieków Zurych jako ośrodek liberalnej myśli przyciągał wiele osobistości takich jak Johann Wolfgang von Goethe, Richard Wagner, Thomas Mann, Albert Einstein, James Joyce, Lenin i Trocki. Podczas I wojny światowej w kabarecie „Voltaire" na Spiegelgasse narodził się dadaizm — międzynarodowy ruch artystyczno-literacki w sztuce XX wieku, którego głównymi hasłami były dowolność wyrazu artystycznego, zerwanie z wszelką tradycją i swoboda twórcza odrzucająca istniejące kanony. Jego członkowie, będący świadkami I wojny światowej, w poczuciu rozpadu cywilizacji negowali powszechnie przyjęte ideały estetyczne i wartości". Фрагмент дадаістычнага маніфесту: „Вам даспадобы сьмерць, калі паміраюць іншыя. Да сьмерці, да сьмерці, да сьмерці! І толькі грошы не паміраюць, яны толькі падарожнічаюць. Гэта — бог, якога паважаюць, сур'ёзны пэрсанаж — грошы — фамільны гонар сямейства. Пашана й слава грошам; чалавек, у якога ёсьць грошы, — гэта чалавек шаноўны...". Дадаізм заснавалі ўцекачы ад Першай сусветнай вайны. І ў Другую сусветную вайну Швейцарыя прыняла звыш пяцідзесяці тысяч бежанцаў, у тым ліку яўрэяў; зараз у Цюрыху ёсць жыдоўскі квартал, на вуліцах якога шмат патрыярхальных яўрэяў з пэйсамі пад капелюшамі...

У гістарычным цэнтры Цюрыха, на левым беразе Лімата, высіцца касцёл Фраўмюнстэр, узведзены ў XIII стагоддзі. У 1970 годзе пяць вітражоў у яго ных вокнах выканаў выхадзец з Віцебска Марк Шагал.

Ад Фраўмюнстэр на другі бераг Лімата, у напрамку Гросмюнстэр і Spiegelgasse, вядзе Манастырскі мост, побач якога касцёл Wasserkirche. У мой там час побач таго касцёла сядзеў гарманіст, які беспершкодна спяваў частушкі і савецкія песні ваеннага і пасляваеннага перыяду, папулярныя і ў нас у час майго дзяцінства. Калі мой траюрадны брат пару гадоў таму заехаў у Пружаны і там заспяваў такія ж песні, яго хутка падхапілі руплівыя міліцыянеры і пасадзілі на двое сутак; што край то абычай...

(працяг будзе)

❖Тэкст і фота

**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 24